# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

9 жніўня 1999 №25 кошт 1 літ


## Шарэцкі – у Вільні

*«Я лічу, што кожны сумленны сын свайго народу павінен быць нацыяналістам. Раз ёсьць нацыя, дык павінны быць і нацыяналізм. І кожны сумленны беларус павінен быць нацыяналістам дзеля таго, каб абараняць сваю нацыю, сваю мову, сваю культуру! І гэта ўсё нармалёва — так павінна быць!»*

*З выступленьня С. Шарэцкага на сьвяткаваньні 10-годзьдзя дзейнасьці ТБК у Літве*

Найбольш знамянальнымі падзеямі ў палітычным жыцьці Беларусі ў ліпені сталіся, бадай: адумысловая паседжаньне дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, прысвечаная заканчэньню тэрміну праўленьня Прэзыдэнта РБ А. Лукашэнкі, несанкцыянаваныя мітынгі й сымбалічныя «паховіны» Лукашэнкі з гэтай нагоды, што адбыліся ў розных беларускіх гарадох, і, нарэшце, прыезд, ці то пераезд, у Літву Старшыні Вярхоўнага Савету й выконваючага прэзыдэнцкія абавязкі сп. Сямёна Шарэцкага. Вельмі ўсьцешыла таксама й міжнародная падтрымка (у тым ліку Злучаных Штатаў) дзеяньняў нашага Вярхоўнага Савету й дэмакратычнай беларускай грамадзкасьці. А нават і расейскія СМІ, як ня дзіўна, даволі аб'ектыўна асьвятлялі гарачыя ліпеньскія падзеі ў Беларусі: ці то ўжо й там пачалі надакучваць «искренние, но слишком затянувшиеся братания» (як пісала адна маскоўская газэта) Менску з Масквой, ці то зноў нашаму ўсходняму суседу спатрэбілася прадэманстраваць Захаду свой дэмакратызм, – балазе, неўзабаве Расея павінная атрымаць ад МВФ першы пасьля працяглага перапынку транш.

Літоўскія ўлады даволі прыязна й з разуменьнем паставіліся да прыезду ў нашу краіну сп. С. Шарэцкага – фактычна, як да законнага Старшыні Вярхоўнага Савету суседняй краіны. Сьпікер Сойму ЛР, апроч усяго іншага, нават прыставіў да свайго калегі персанальную ахову. У самой жа Беларусі да пераезду Шарэцкага ў Вільню паставіліся неадназначна: ад падтрымкі гэтага, бадай што, абачлівага кроку да крытыкі за нясьмеласьць, за нежаданьне (як Мандэла) «пацярпець за Беларусь». Няясны таксама й статус сп. С. Шарэцкага ў Літве. Пры сустрэчы зь ім наш карэспандэнт запытаўся:

**– У Канстытуцыі 1994 году запісана, што «У выпадку вакансіі пасады Прэзыдэнта або немагчымасьці выкананьня ім сваіх абавязкаў яго паўнамоцтвы да прынясеньня Прысягі новавыбраным Прэзыдэнтам пераходзяць да Старшыні Вярхоўнага Савету». Але калі такое здараецца, ці патрэбна, каб Вярхоўны Савет выпрацаваў, а Старшыня падпісаў нейкі дадатковы дакумант: загад, пастанову ці нешта іншае? Ці патрэбна было Вам абвесьціць сябе выконваючым прэзыдэнцкія абавязкі?**

– Не, непатрэбна. Гэта абвяшчае сама Канстытуцыя. Аўтаматычна, безь ніякіх «загадаў» і лішніх папераў. Якраз, каб спыніць падобныя інсынуацыі, я рыхтую Заяву наконт усяго гэтага.

**– Пэўныя палітыкі ў Беларусі ў сувязі з Вашым прыездам у Літву абвінавачваюць Вас у нясьмеласьці...**

– Я знаходжуся там, дзе лічу патрэбным знаходзіцца, каб больш уплываць на сытуацыю ў Беларусі, каб больш зрабіць дзеля таго, каб тая нелегітымная ўлада, каторая цяпер правіць там, хутчэй пайшла на злом, у «сьметнік гісторыі». І ўвогуле, дзе б я не знаходзіўся, ці то тут, ці то ў якой іншай краіне, – я заўсёды буду кіравацца інтарэсамі Рэспублікі Беларусь. Я буду дамагацца, каб нелегітымнасьць Лукашэнкі сталася рэальнасьцю.

**– А ці шмат было выпадкаў перасьледу Вас з боку цяперашніх беларускіх уладаў?**

– Быў маральны ўціск, але вялікага фізычнага ўціску не было. Аднак я магу сказаць, напрыклад, што напярэдадні паседжаньня Вярхоўнага Савету й па сёньняшні дзень дом, дзе я жыву, абкружаны пражэктарамі, асьвятляецца, чакаюць, што я падыйду... Дарэчы, сёньня майго меншага сына, які працаваў у структуры Міністэрства с/г, на дзяржаўнай працы, адправілі на адпачынак, хутка звольняць.

**– Як Вас прыняла Літва?**

– Я вельмі ўдзячны літоўскім уладам. Мы знайшлі тут узаемаразуменьне, у тым ліку са Старшынёй Сойму сп. Ландзбэргісам. Сустракаўся я ўжо й шмат зь якімі дэпутатамі, атрымаў ад іх падтрымку, напрыклад, ад Э. Зінгерыса.

**– А які будзе Ваш статус, калі Вы застанецеся ў нашай краіне? Статус палітычнага бежанца?**

– У мяне статус адзін: Старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі. І чаму я павінен прасіць палітычнага прытулку? Гэта было б проста сьмешна. Толькі недасьведчаныя людзі думаюць, што я буду недзе прасіць таго прытулку... Я прыехаў сюды з той прычыны, што мне ў Беларусі зараз быць небясьпечна, што калі мяне паса-дзяць у турму, дык карысьць з гэтага будзе невялікая. Хопіць таго, што сядзіць М. Чыгір. Калі б ён быў на свабодзе, ён зрабіў бы дзеля Беларусі значна больш.

**PS.** Калі ўжо вярстаўся гэты нумар, прыйшлі весткі з 6-га зьезду БНФ у Менску. Паводле тых зьвестак на пасаду старшыні Фронту прэтэндавалі два кандыдаты: Зянон Пазьняк і Вінцук Вячорка. Ніхто зь іх не набраў большасьці галасоў. (З. Пазьняку не хапіла ўсяго аднаго працэнту!). Цяпер незразумела, ці то ў шэрагах БНФ адбудзецца раскол, ці то ў верасьні, на другой сэсіі зьезду, абяруць, нарэшце, старшыню. Пачакаем.

**А. М.**




Здымак Генадзя Жынкова

## КОЖНЫ СУМЛЕННЫ СЫН СВАЙГО НАРОДУ ПАВІНЕН БЫЦЬ НАЦЫЯНАЛІСТАМ

Шматвяковая гісторыя паказвае, што з усіх сьветапоглядаў найбольш трывалай, а ў XX ст. найбольш распаўсюджанай, зьяўляецца нацыянальная ідэя. У адрозьненьні ад іншых ідэяў, што дасягнулі росквіту ў адной ці ў групе краінаў, як гэта было, скажам, з клясавай ідэяй, — нацыянальная ідэя, выразна сфармуляваная ў часе Вялікай Францускай рэвалюцыі, ахапіла ўвесь сьвет і зрабіла, і працягвае рабіць на мапе найбольш моцны адбітак. Гэта тлумачыцца, на наш погляд, устойлівасьцю самой нацыі, якая зьяўляецца супольнасьцю людзей з агульнай тэрыторыяй, эканамічным жыцьцём, мовай, асаблівасьцямі культуры і псыхалёгіі. Нацыя для кожнага чалавека — гэта вякамі створанае біялягічна-сацыяльнае асяродзьдзе, дзякуючы якому ён выхоўваецца як асоба з канкрэтнымі нацыянальнымі рысамі.

Больш таго, з паступовым разьвіцьцём грамадзтва адныя клясы зьнікаюць, іншыя нараджаюцца. Так, у сучасны пэрыяд з разьвіцьцём навукова-тэхнічнага прагрэсу ў многіх цывілізаваных краінах зьнікае пралетарыят, якому, дарэчы, марксісты-ленінцы абяцалі вялікую будучыню. А толькі пралетарыят зьяўляецца, сапраўды, самай рэвалюцыйнай клясай — дык зь ягоным зьнікненьнем пачынае затухаць і клясавая барацьба, а, значыць, зьмяншаецца роля й клясавай ідэі. У той самы час нацыі, а, значыць, і нацыянальная ідэя з разьвіцьцём навукова-тэхнічнага прагрэсу й дэмакратычных працэсаў усё больш квітнеюць. Мала таго, кожная з нацыяў для свайго далейшага ўсебаковага разьвіцьця хоча мець сваю дзяржаўнасьць. Бо толькі дзяржаўнасьць забясьпечвае рашэньне гэткіх агульнанацыянальных задачаў, як абарона сваёй тэрыторыі й абарона нацыянальных інтарэсаў у міжнародных зносінах, недатыкальнасьць правоў асобы й ейнай маёмасьці, рацыянальнае выкарыстаньне прыродна-эканамічных і людзкіх рэсурсаў на карысьць карэннага народу на дадзенай тэрыторыі, арганізацыя сацыяльнага забясьпечаньня насельніцтва, а таксама, што ня менш важна, атрыманьне адукацыі на роднай мове й разьвіцьцё нацыянальнай мовы й культуры, прыняцьце законаў у справе падтрымкі грамадзкага парадку з улікам нацыянальных традыцыяў і адвечнай псыхалёгіі канкрэтнага народу. Разьвіцьцё нацыянальнай ідэі зьяўляецца галоўнай прычынай развалу Аўстра-Вэнгерскай ды Вялікабрытанскай імпэрыяў у першай палове XX ст., а ў сучасны момант — Савецкага Саюзу, Чэхаславаччыны й Югаславіі на незалежныя дзяржавы. З гэтай прычыны йдзе барацьба валійцаў і шатляндцаў за аўтаномію ў складзе Англіі, а чачэнцаў — за аддзяленьне ад Расейскай Фэдэрацыі.

Гісторыя сьведчыць, што не бывае паўнапраўнага саюзу народаў (нацыяў) у адной дзяржаве. І на гэта зьвяртаў увагу яшчэ вялікі нямецкі філёзаф Эмануіл Кант, гаворачы ў сваім артыкуле «Да вечнага міру» аб саюзе народаў, што саюз народаў «...не павінен быць дзяржавай народаў. Апошняе азначала б супярэчнасьць, бо ўсялякая дзяржава ўяўляе сабой адносіны вышэйшага (заканатворцы) да ніжэйшага (падпарадкаванага, г. зн. народу), многія народы ў дзяржаве стварылі б толькі адзін народ, што супярэчыць перадумове».



У многанацыянальнай дзяржаве заўжды ёсьць тытульная нацыя, якая хоча падпарадкаваць сабе іншыя нацыі й зрабіць іх падобнымі да сябе. І гэта выразна бачна на прыкладзе Савецкага Саюзу, дзе нацыянальныя адносіны, дарэчы, як і адносіны ў іншых грамадзкіх сфэрах, рэгуляваліся адміністрацыйна-каманднымі мэтадамі, што не дазваляла нацыям мець свой твар. У разьвіцьці культураў народаў Савецкага Саюзу на першы плян выступаў нейкі сацыялістычны зьмест, які зь цягам часу стаў патрабаваць і адной формы ягонага адлюстраваньня.

Таму заклік разьвіваць культуру «нацыянальную формай і сацыялістычную зьместам» быў найперш прапагандысцкім. На практыцы многія народы, у тым ліку й беларускі, пачалі губляць і нацыянальную форму сваёй культуры. Гэта перадусім датычала беларускай мовы, якая, паводле трапнага выразу Івана Мележа, зьяўляецца найвялікшым народным скарбам.

Працяг на старонцы 4

# Сьвяткаваньне 10-гадовага юбілею ТБК

адбылося ў дамках ТБК на Жыгіманту 11 ліпеня. На сьвяткаваньні прысутнічалі такія высокія госьці, як Намесьнік Старшыні Сойму Літвы сп. Рамуальдас Озалас, Старшыня ВС Беларусі сп. Сямён Шарэцкі, Старшыня БНФ сп. Зянон Пазьняк, вядомы беларускі паэт сп. Генадзь Бураўкін, вядомы беларускі гісторык сп. Анатоль Грыцкевіч. Яны выступілі з кароткімі прамовамі на ўрачыстай акадэміі, прысьвечанай 10-годзьдзю дзейнасьці нашай старэйшай беларускай арганізацыі ў Вільні, сказалі шмат цёплых словаў у адрас Старшыні Таварыства сп. Хведара Нюнькі. Затым зь невялічкім сьпеўным канцэртам выступіў вакальны дуэт пад кіраўніцтвам А. Старавойтава. Па канцэрце для прысутных быў заарганізаваны швэдзкі стол, вяліся шчырыя гаворкі датычныя лёсу й будучыні нашай Бацькаўшчыны. Шчырыя, бо ўсе, хто быў на сьвяце, зьяўляліся аднадумцамі ў адмоўным стаўленьні да тых нэгатыўных працэсаў у грамадзка-палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцьці, каторыя сёньня адбываюцца ў Беларусі.

Прамова сп. **Сямёна Шарэцкага** перагукваез думкамі, выказанамі ў артыкуле, каторы мы зьмяшчаем у гэтым нумары, а ніжэй падомо найболш яскравыя фрагмэнты з выступаў некаторых іншых прамоўцаў.

**Зянон Пазьняк**: «Калі ў 1944 годзе дзясяткі тысячаў беларусаў вымушаныя былі выехаць за межы Бацькаўшчыны, уцякаючы ад савецкіх войскаў, дык менавіта яны, любячы сваю Радзіму, сваю гісторыю і свой народ, які застаўся жыць пад бальшавіцкай акупацыяй, – захавалі й бел-чырвона-белы сьцяг, і герб Пагоню, захавалі й разьвілі беларускую нацыянальную ідэю, выдалі сотні кніг, захавалі чыстую беларускую мову, не сапсаваную Сталіным. Гэтыя каштоўнасьці й сьвятыні яны данесьлі да сёньняшняга дня. На самым пачатку развалу СССР беларуская моладзь пачала зьбіраць беларускі фальклёр, сьпяваць беларускія песьні, адзначаць Купальле. Так зараджалася беларуская ідэя ў самой Беларусі, дзе ўжо ўсё нацыянальнае было амаль затаптанае. Моладзь наша жыла сваім сэрцам, брала з таго, што было вакол яе. А вось нацыянальная ідэя, сымболіка, іншыя каштоўнасьці былі за мяжой. І БНФ, і іншыя маладзёвыя арганізацыі, што зараджліся ў 80-х гг., узялі гэта аддуль. Так было і ў Літве, і ў Эстоніі, і ў Латвіі. Урады гэтых краінаў перадалі нават свае паўнамоцтвы, функцыі й правы цяперашнім уладам. Гэты гістарычны прыклад наглядна паказвае, якую ролю могуць адыгрываць беларусы ў сьвеце, дзе б яны не былі, ці то ў Аўстраліі, ці то ў Сыбіры. І менавіта таму наш беларускі нацыянальна-культурны рух адзіны ва ўсім сьвеце.

У гэтым кантэксьце вельмі важна для нас, беларусаў, дзе б мы не апынуліся, памятаць асноўныя каштоўнасьці, якія павінныя перахоўвацца з пакаленьня ў пакаленьне: мова, сьведамасьць нацыянальнай ідэі, нацыянальныя сымбалі. Гісторыя апошняга часу выдатна гэта праілюстравала. З нацыянальнымі сымбалямі людзі йшлі на сьмерць. Са сьцягамі паміралі. Бо гэтыя сымбалі – сымбалі ўсяго нашага йснаваньня, нашага мінулага й будучыні. Духоўнае разуменьне сымбаля ёсьць найвялікшы аб'яднаўчы фактар для ўсяе нацыі.

Усё тое, пра што я сказаў, мае больш ідэйнае значэньне, але гэтае ідэйнае значэньне павіннае ўвасабляцца ў канкрэтных справах... І ў гэтым аспэкце вельмі йстотны такі момант, каб беларусы-замяжоўцы, інтэгруючыся ў грамадзтва сваёй краіны пражываньня, стараліся ня толькі застацца беларусамі, а й імкнуліся заняць як найбольш высокае сацыяльнае становішча. Мы павінныя заахвочваць, каб нашыя людзі атрымлівалі адукацыю, каб яны займаліся бізнэсам, багацелі, каб у беларусаў былі грошы, было трывалае сацыяльнае становішча, каб у нас была эліта ня толькі інтэлектуальная, але й матар'яльная. Гісторыя ўсіх народаў, каторыя маюць свае дыяспары за мяжой, паказвае, што калі добрае матар'яльнае становішча ня будзе дасягнутае, дык жыць нам будзе цяжка».

Паэт **Генадзь Бураўкін** сваю прамову закончыў вершам «Малітва», надрукаваным на першай старонцы газэты.

**Анатоль Грыцкевіч**: «У Беларусі ідзе цяпер наступ маскоўскай акупацыйнай улады. Цяперашні прэзыдэнт фактычна зьяўляецца толькі марыянэткай у ейных руках і тых колаў, якія яго падтрымліваюць. Апошні месяц ідзе масавае закрыцьцё грамадзкіх арганізацыяў. Ужо сотні грамадзкіх арганізацыяў не зарэгістраваныя, а іншыя могуць быць не зарэгістраваныя ў бліжэйшы час. Пры рэгістрацыі з назвы арганізацыі абавязкова выкараняюцца словы «нацыянальная» і «народная», – нават «беларуская». І вось ужо самай масавай арганізацыі й адначасна партыі, Беларускаму Народнаму Фронту, улады запрапанавалі зьняць слова «народны»... Ідзе перасьлед усяго беларускага. Аднак за дзесяць апошніх гадоў наша моладзь загаварыла па-беларуску. У нас нават у рускіх школах лічаць прэстыжным размаўляць па-беларуску, слухаць беларускія рок-гурты. Такога дзесяць гадоў назад не было. Я лічу, што нягледзячы ні на што, беларускасьць перамагае, праўда ў вельмі цяжкой форме. Ёсьць пагроза, і даволі вялікая, ліквідацыі нашае незалежнасьці. Самае галоўнае для ўсіх беларусаў – гэта захаваньне незалежнасьці. Будзе незалежнасьць – будзе дэмакратыя, будзе свабодная эўрапэйская краіна».

**А. М.**





## Пікет

з нагоды заканчэньня прэзыдэнцкай кадэнцыі А. Лукашэнкі адбыўся 21 ліпеня перад брамаю беларускай амбасады ў Літве. Прысутных было 20 чалавек. На сьцяне гмаху, каторы узвышаецца насупраць амбасады, былі расклееныя плякаты й лёзунгі на беларускай, літоўскай і расейскай мове. Прахожым раздаваліся адумысловыя ўлёткі на літоўскай мове, адрасаваныя прэзыдэнту Літвы, Сойму, літоўскаму ўраду, грамадзянам Літвы. Выступалі прамоўцы. Пікет шырака паказвалі па літоўскім тэлебачаньні, асьвятлялі ў газэтах. Арганізавала пікет ТБК і Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі». Падамо ніжэй тэкст ліста-ўлёткі, адрасаванай А. Лукашэнку, каторую пікетоўшчыкі з сваімі подпісамі перадалі ў амбасаду РБ у Літве:

### Адкрыты ліст

*Пяць гадоў Вы, Аляксандар Рыгоравіч, мелі магчымасьць уладарыць у Беларусі. Сёньня Ваш тэрмін скончыўся.*

*Нраз на сваім вяку Беларусь была пад уладай чужакоў-акупантаў ды сваіх выраддкаў-здраднікаў. І нічога, пережыла. Пережыве й Вас.*

*Вы зьбіраецеся й надалей чыніць гвалт і хлусьню? Ня выйдзе! Усяму сьвету будзем мы сьведчыць пра Вашыя злачынствы.*

*Вы зьбіраецеся й надалей палохаць рэпрэсіямі сваіх супернікаў? Вам не зламіць народнай волі!*

*Вы думаеце, што Вам пад сілу забараніць наш сьцяг і герб? Мы высока ўзнімаем бел-чырвона-белы штандар і ПАГОНЮ!*

*Вы хочаце ўваскрасіць Савецкі Саюз, зьнішчыць у Беларусі ўсё беларускае? Мы кажам: «Жыве Беларусь і зробім усё, каб так сталася!»*

*ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!*

**А.М.**



скіраваны ў далеч, на вуснах ледзь прыкметная ўсьмешка, – так сустракаюць старыя кагосьці роднага й блізкага, вельмі жаданага на парозе сваёй сялібы. Што ж убачыў у далечыні Леванід Кароль? Падобна, што ўбачыў ён там свабодную й вольную Бацькаўшчыну... Моцная калёна, на якой стаіць бюст, сымбалізуе цьвёрдасьць, устойлівасьць і непахіснасьць, а крыху зламаная стужка – гэта беларушчына, каторая не аднойчы ламалася й зьнішчалася нашымі ворагамі, ды не была разарваная. Моцныя рукі прыціскаюць стужку да грудзей, не даюць нікому зьнішчыць, парваць яе.

Над магілай гаварыліся шчырыя пранікнёныя прамовы. Выступалі сябры, былыя супрацоўнікі Л. Караля. Сп. Х. Нюнька, каторы лічыў яго старэйшым сябрам і дарадцам, вельмі шкадаваў пра ягоную заўчасную сьмерць. Сп. К. Шышэя казаў пра ягоную самаахвярнасьць у справе служэньня Радзіме. Некаторыя прасілі прабачэньня, што не ўберагылі ад сьмерці. Усе выступоўцы адзначылі рознабаковую дзейнасьць Л. Караля, таленавітасьць, сьціпласьць, абавязковасьць. Прамовы гэтыя працягваліся й за жалобным сталом, накрытым у вялікай залі ТБК. Але тут ужо быў троху іншы акцэнт: выступоўцы гаварылі, што найлепшым ушанаваньнем памяці слаўнага сыну беларускага народу будзе нашая бескарысная й адданая праца на карысьць Бацькаўшчыне.

**Павал Саўчанка**




*Сьцяг трымае вэтэран беларускага нацыянальна-вызвольнага руху Кастусь Шышэя.*





## Адкрыцьцё помніка

Леваніду Каралю з нагоды гадавіны з дня ягонай сьмерці, адбылося 14 ліпеня на праваслаўных могілках на Ліпоўцы. А 15-ай гадзіны ў царкве Эўфрасіньні Полацкай на могілках адбылося багаслужэньне, куды прыйшлі сябры ТБК, настаўнікі беларускай школы, родныя й знаёмыя Л. Караля. Пасьля багаслужэньня ўся грамада рушыла да магілы, на якой пад белым палатнішчам стаяў помнік, зроблены нашым вядомым віленскім скульптарам Эдуардам Падбярэскім. Помнік, як убачылі прысутныя, зроблены скульптарам у цікавай манэры: на калёне бюст нябошчыка, а праз грудзі да долу спадае шырокая стужка з беларускім народным арнамэнтам. Моцныя, працавітыя рукі Леваніда Караля прыціснутыя да сэрца, ягоны позірк

## Беларускія крахаборы ўводзяць новыя паборы

Хаця А. Лукашэнка атрымлівае ад мытных пошлінаў траціну ўсіх грашовых сродкаў РБ, ягоны апэтыт на валюту павялічваецца. Ён уводзіць на мяжы ўсё новыя паборы. Гэтак з 1 ліпеня літоўскім кіроўцам, што перасякаюць беларускую мяжу, даводзіцца абавязкова страхавацца. Страхоўка «легкавушкі» складае 4,8 эўра, прычэпа да яе – яшчэ 2,6 эўра. Даражэйшая за ўсё страхоўка аўтобуса – 18,1 эўра. Аднаразовая віза цяпер каштуе $ 20 (тэрміновая – $ 35). Апроч таго на беларускай мяжы з аўтамабілістаў лупяць за экалёгію: зь легкавых машынаў – $ 5, з аўтобусаў – $ 20. І гэта яшчэ ня ўсё. Калі раптам едзеш цераз тэрыторыю заказьніка (а іх у Беларусі нямала), дык і там трэба плаціць пошліну. Вось да чаго дадумаліся чырвоныя фэадалы ў Беларусі. Інакш, як рэкетам, тамтэйшыя парадкі не назавеш. А Лукашэнка – галоўны обэр-рэкіцёр, які народ як ліпку абдзёр.

**Юры Гіль**

## Трэба пратэставаць

Калі раней, у бытнасьць Яўгена Вайтовіча й консуля Бобава, не было ніякіх праблемаў з выдачай бясплатных візаў у Беларусь калектывам мастацкай самадзейнасьці й актывістам нашых беларускіх арганізацыяў у Літве, дык з прыездам пасла Гаркуна й консула Васільева займець такія візы практычна немагчыма. Так, напрыканцы траўня, сябры ТБМ Віленскага краю не змаглі выехаць на запланаванае ў Докшыцкім

раёне сьвята Купальля. Загадзя на імя амбасадара У. Гаркуна ад Таварыства «Радзіма» зь Менску быў дасланы ліст-хадайніцтва з просьбай выдаць ільготныя візы актывістам ТБМ. Доўгі час гэты ліст быў у Гаркуна, потым ён пераправіў яго сп. Васільеву, каторы наклаў такую рэзалюцыю, што кожнаму ўдзельніку паездкі трэба было б заплаціць па $ 35 ды яшчэ за экалёгію й страхоўку аўтобуса. Паездка сарвалася. Трэба адзначыць, што літоўская амбасада ў Менску робіць усё для сваіх землякоў у Беларусі. Чаму ж у Літве дагэтуль не выконваецца Дзяржаўная праграма па аказаньні дапамогі беларускай дыяспары?

*Старшыня ТБМ Віленскага краю* **Юры Гіль**

## Сьвятая імша

за ўпакой душаў беларускіх сьвятароў Адама Станкевіча й Яна Семашкевіча (Янкі Быліны) адбылася 1 жніўня аб 10.30 у касьцёле Сьв. Барталамэя на Зарэччы. Праводзіў імшу кс. Ян Шуткевіч.

**Юры Гіль**

## У Лаварышках

увекавечаная памяць Браніслава Тарашкевіча: адна з вуліцаў мястэчка названая ў гонар нашага славутага зямляка ягоным іменем. У хуткім часе на будынку Лаварышскай школы, дзе ў свой час вучыўся Б. Тарашкевіч, будзе ўстаноўленая мэмарыяльная табліца ў ягоны гонар, пра што прынятая пастанова Рады Віленскага раяна й на пэдсавеце названай школы. Праўда, прапанова ТБМ аб наданьні ягонага імя школе не знайшла пакуль што падтрымкі. Ведама, цяпер Лаварышская школа –польская. На бліжэйшай сэсыі Рады дэпутатаў Віленскага раёну будзе разглядацца пытаньне аб ушанаваньні ў Лаварышках памяці Адама Станкевіча й Яна Семашкевіча, жыцьцё й дзейнасьць каторых таксама непасрэдна зьвязаныя з гэтым мястэчкам.

**Юры Гіль**



# ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ РАСЕІ

## (СКАРОЧАНЫ ДАКЛАД З УСТАНОЎЧАГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ У РАСЕІ)

Беларусаў у Расеі налічваецца ня менш за 1,2 млн. чалавек. Гэта самая буйная беларуская дыяспара ў сьвеце. Беларусы перасяляліся ў Расею здаўна, не пазьней за XV ст. Асабліва моцны быў прыток беларусаў у Маскоўскую дзяржаву падчас Інфлянцкай вайны (XVI ст.), войнаў Расеі з Рэччу Паспалітай (XVII ст.) і Паўночнай вайны (пачатак XVIII ст.), калі маскоўскія войскі прымусова перасялялі сотні тысячаў беларусаў у Расею. Перасяленьні ўзмацніліся пасьля ўзброеных супраціваў прыядналеньню Беларусі да Расеі й паўстаньняў (XIX ст.). Аднак найбольш масавымі былі высяленьні беларусаў у ходзе рэпрэсіяў часоў камунізму, індустрыялізацыі, асваеньня цалінных земляў, вярбоўкі на лесараспрацоўкі Поўначы ды на камсамольскія навабудоўлі.

Але Беларусь пастаўляла Расеі ня толькі адну працоўную сілу. З другога пакаленьня беларусаў паходзілі расейская імпэратрыца Кацярына I і ўсяўладны палітычны дзеяч А. Меншыкаў, ваенныя міністры XIX ст. В. Сухазанет, П. Ваноўскі, міністар фінансаў Ф. Урончанка, а ў XX ст. міністры савецкага ўраду К. Мазураў і А. Грамыка, шмат расейскіх і савецкіх ваеннаначальнікаў. «Вымываньне мазгоў» зь Беларусі узбагачала патэнцыял расейскай навукі, культуры, літаратуры.

Традыцыя беларускіх культурных суполак сягае сярэдзіны XIX ст., калі ў Пецярбурзе спачатку стварыўся «Крывіцкі вязок», а затым «Гоман». Напачатку XX ст. тут утварыўся Беларускі літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбугскага ўнівэрсытэту, а потым іншыя. Падобныя гурткі й таварыствы йснавалі ў 20-ыя гг. у розных кутах Расеі, аднак хваля чырвонага тэрору зьнішчыла іх. Адраджацца яны пачалі толькі ў часы г. зв. «перабудовы». Найбольш раньнія й найбольш трывалыя зь іх — Таварыства беларускай культуры ў Маскве й Беларускае грамадзка-культурнае таварыства ў Пецярбурзе. Пасьпяхова дзейнічаюць іншыя суполкі.

Цяжкасьці ў захаваньні беларускай прысутнасьці ў Расеі ўзьнікаюць праз індэфэрэнтнасьць пераважнай большасьці расейскіх беларусаў у стаўленьні да сваёй нацыянальнай прыналежнасьці. Пашырэньню нацыянальна-культурнай дзейнасьці перашкаджае цяжкае эканамічнае становішча нашых суайчыньнікаў. Слабая матар'яльная база культурна-асьветніцкай працы суполак тлумачыцца як сьціплай падтрымкай іх з боку мясцовых уладаў, гэтак і абыякавасьцю з боку ўладаў Беларусі, каторыя практычна не выконваюць грунтоўнай праграмы «Беларусы ў сьвеце», прынятай на дзяржаўным узроўні папярэднім урадам у 1993 г.

У Расеі амаль цалкам адсутнічаюць беларускія пэрыядычныя выданьні (апроч некалькіх саматужных), няма беларускіх школаў (хаця такія йснавалі ў 20-я гг. у мейсцах кампактнага пражываньня беларусаў у Сыбіры й на Далёкім Усходзе), няма беларускіх бібліятэкаў, культурных установаў. Намаганьні пецярбургскіх і маскоўскіх беларусістаў не прывялі да стварэньня спэцыялізацыі ў тутэйшых ВНУ, хаця ў іх выкладаюцца такія экзатычныя мовы, як суахілі, кечуа ды кхмерская. Няма ў Расеі радыёвяшчаньня беларускай мовай.

Але ўсё гэта можна яшчэ перажыць. Самай галоўнай праблемай нашага йснаваньня ды ўстойлівасьці зьяўляецца дыскрымінацыя беларускай мовы ў дзяржаўных маштабах у самой Рэспубліцы Беларусь.

Дзякуючы перабудове канца 80-х гг., беларускія адраджэнцы дамагліся таго, што беларуская мова 26 студзеня 1990 году была ўзгалошаная дзяржаўнаю моваю РБ. Распачалася новая хваля беларусізацыі, забясьпечаная законамі краіны. Але з 1994 году становішча карэнным чынам зьмянілася. Падобна да таго, што з гэтага часу Беларусь сталася лябараторыяй, у якой праводзіцца экспэрымэнт узнаўленьня таталітарызму. Пачаўся сьвядомы адыход ад выкарыстаньня беларускай мовы ў справаводзтве й адукацыі. Магчыма, пашырэньне беларускай мовы правячы рэжым разглядае, як адзін зь індыкатараў адмовы ад прыярытэту нядаўняй савецкай сыстэмы й царскага рэжыму, каторыя ўніфікавалі насельніцтва сваёй разьлеглай імпэрыі дзеля больш зручнага кіраўніцтва бязьлікаю масаю падданых. Новы рэжым, выкарыстаўшы ўладу, правёў у траўні 1995 году рэфэрэндум, паводле якога рускай мове быў нададзены статус роўны зь беларускай. Гэта фактычна зноў ператварыла беларускую мову ў другасную. Да чаго прыводзіць такая згубная моўная палітыка паказваюць лічбы. Прапарцыянальнасьць выданьняў на беларускай мове складала ў 1987 годзе 7%, у 1995 годзе — 12,5%, а ў 1997 годзе — 5,5%, г. зн. менш чым у апошнія гады СССР! Для параўнаньня, у 1925 годзе наклад беларускіх кніг і брашураў складаў 68,5%, у 1986 годзе — 31,5%, у 1997 годзе — 5,6%.

У этыцы йснуе прынцып спачуваньня. Ён палягае на тым, каб паставіць сябе на мейсца іншага й паглядзець на сьвет ягонымі вачыма. Мне даводзілася распавядаць старшаклясьнікам двух пецярбургскіх школаў пра сытуацыю з выкладаньнем роднай мовы ў Беларусі. На маё пытаньне, як бы яны паставіліся да таго, каб у аб'яднанай Расеі-Беларусі іх перавялі на беларускую мову навучаньня, давалі чытаць пераважна беларускія кніжкі, паказвалі б толькі беларускамоўныя тэлеперадачы, — я пачуў гул абураных галасоў. У Беларусі ж падобная сытуацыя ня ўлічваецца. Перарабляюцца падручнікі, даведнікі, энцыкляпэдыі на стары савецка-імпэрскі капыл. Перасьледуецца нацыянальная сымболіка. Вяртаюцца зь нябыту рытуалы камуністычных часоў, напрыклад, уведзеныя пасады намесьнікаў кіраўнікоў прадпрыемстваў па інфармацыйнай (г. зн. ідэалягічнай) частцы, па працы з моладзьдзю (камсоргі). Прапагандуецца ідэя аб'яднаньня славянаў, якая, па сутнасьці, страціла сваё значэньне яшчэ да пачатку Першай сусьветнай вайны. Гісторыя ведае тры прыклады йснаваньня дзяржаваў на аснове славянскага адзінства: Расейскую ім-пэрыю, Югаславію ды Чэхаславаччыну. Чым скончылася іхняе йснаваньне, мы добра ведаем. Невыпадкова А. І. Салжаніцын папярэдзіў вялікаросаў: «Няма ў нас моцы на імпэрыю!» Тым больш, што заплянаваная аб'яднаньне Расеі й Беларусі можа выклікаць незадаволенасьць іншых неславянскіх народаў і неправаслаўных этнасаў Расеі й справакаваць распад РФ.



Карыкатура з газэты ПАГОНЯ

Зацікаўленых у адраджэньні беларушчыны сярод беларусаў Расеі ня можа не непакоіць імкненьне пэўных колаў паскорыць г. зв. інтэгра-цыю Беларусі з Расеяй, а насамрэч — звычайную інкарпарацыю й паглынаньне большай Расеяй меншай Беларусі. Калі гэта называюць на прыкладзе аб'яднаньня ў 1937 годзе Нямеччыны ды Аўстрыі «аншлюсам», дык робяць прынцыповую памылку: у Нямеччыне й Аўстрыі размаўлялі й размаўляюць на адной мове. Хутчэй гэта нагадала б прыядналеньне да Нямеччыны маленькай Галяндыі або Сэрбіі да Балгарыі.

Апошнім часам у Пецярбурзе як грыбы ўзьнікаюць разнамасныя руска-беларускія «брацтвы», «рухі» ды «саюзы». Што ў такіх «саюзах» няма ніякага зацікаўленьня ў захаваньні беларускай мовы й культуры, зразумела кожнаму. Мы чуем галаслоўныя заклікі аб аб'яднаньні, аднак падцьверджаньняў таму, што г. зв. інтэграцыя паспрыяе разьвіцьцю беларускай культуры, мы ня маем. Самае большае, што могуць пакінуць беларусам, дык гэта «Лявоніху» й вышываныя кашулі, маўляў, скачэце, беларусы, свае скокі, і ня суйце носу не ў сваю палосу. «Культам «Лявоніхі» й лапця» назваў калісьці гэткі падыход А. Стэповіч.

Мы ведаем, што матар'яльны дабрабыт нашага народу на Бацькаўшчыне шмат у чым пагоршыўся праз ягоную празьмерную даверлівасьць да лісьлівых абяцанкаў і пустых словаў. Гэтая даверлівасьць не ў апошнюю чаргу палягае на нашай абыякавасьці (у выніку прымусовай атэізацыі) да нацыянальнай духоўнай спадчыны й Слова Божага. Забыліся нашыя людзі на папярэджаньне Апостала: «Хай ніхто ня зводзіць вас пустымі словамі, бо за гэта прыходзіць гнеў Божы на сыноў бунтоўных. Дык жа ня будзьце супольнікамі іхнымі» (Еф. 5,6-7).

Ніхто з нас ня супраць добрасуседзкіх дачыненьняў Расеі й Беларусі. Аднак той «саюз», да якога нас заклікаюць пэўныя палітыкі, згубны для беларускай мовы й культуры. Страта мовы — пагібель для нацыі. Страта самастойнасьці — небясьпека для йснаваньня беларусаў як самабытнай нацыі.

У сувязі з прыняцьцем у Расеі закону аб нацыянальна-культурнай аўтаноміі мы хочам стварыць Міжрэгіянальнае аб'яднаньне беларусаў Расеі (МАБР) на ўмовах і прынцыпах:

— **беларуская мова;**
— **беларуская культура;**
— **Беларусь як Радзіма.**

МАБР павіннае быць перадусім не палітычным, а культурным Аб'яднаньнем усіх тых, каму неабыякавы лёс беларушчыны. Яно павіннае гуртаваць людзей незалежна ад іхняй палітычнай і канфэсіянальнай арыентацыі. Прапануецца ў Маскве зь ейнымі трывалымі традыцыямі беларускага культурнага, навуковага й грамадзкага жыцьця стварыць супольнабеларускі нацыянальна-культурны цэнтар, дзе будзе праводзіцца праца каардынацыі дзейнасьці беларускіх суполак Расеі. Такі цэнтар павінны ўключаць у сябе бібліятэку, трывала дзейсную мастацкую выставу, канцэртную залю, курсы беларускай мовы, літаратуры, гісторыі Беларусі, рэдакцыю беларускага штотыднёвіка, гатэль, кавярню зь беларускай кухняй. Трэба дамагацца таксама адкрыцьця ў расейскіх гарадах са значнай колькасьцю беларускага насельніцтва беларускіх школаў і клясаў, а таксама стварэньня ў вядучых расейскіх унівэрсытэтах аддзяленьняў па падрыхтоўцы беларусазнаўцаў.

Прысутныя тут могуць пачуць заклікі йсьці на некаторыя іншыя паседжаньні й сходы, каторыя толькі прыкрываюцца назваю «беларускія», а ў сапраўднасьці шкодзяць захаваньню беларускай дзяржаўнасьці. Я раіў бы кожнаму меркаваць не паводле словаў, а паводле дзеяў арганізатараў падобных «паседжаньняў» ды кіравацца словамі: «Шчасьлівы чалавек, што ня ходзе на раду бязбожных, не ўзыходзіць на шлях грэшнікаў і паміж насьмешнікаў не засядае» (Пс. I, I).

**Валянцін Грыцкевіч**

# КОЖНЫ СУМЛЕННЫ СЫН СВАЙГО НАРОДУ ПАВІНЕН БЫЦЬ НАЦЫЯНАЛІСТАМ

*Працяг са старонкі 1*

«Той, хто не паважае родную мову, пісаў ён, — не паважае роднага народу». Руская мова са сродку міжнацыянальных зносінаў усё больш пераўтваралася ў дамінуючую на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюзу ды пачала выцясняць нацыянальныя мовы іншых народаў.

Натуральна, што ў прыгнечаных нацыяў гэткая палітыка выклікае павышанае праяўленьне інстынкту самазахаваньня, у іх абвастраецца пачуцьцё нацыянальнай годнасьці (нацыяналізм), і яны пачынаюць весьці барацьбу за незалежнасьць. Пры гэтым, як паказаў у сваім артыкуле «Рабочы стан пануючых і прыгвалчаных нацыяў» Язэп Лёсік на прыкладзе Вялікабрытанскай імпэрыі, «у змаганьні прыгвалчанай нацыі за сваю нацыянальную незалежнасьць інтарэсы ўсіх странаў супадаюць, і супрацоўніцтва ў гэтым кірунку ня толькі магчыма, але і патрэбна». Лёсік падкрэсьліваў, што «ў дзяржаўнай незалежнасьці сваёй нацыі зацікаўлены ўсе станы нацыі, і толькі дружнаю і супольнаю працаю іх магчыма вызваліць з-пад нацыянальнага, а значыць, і эканамічнага прыгвалчэньня». Разам з тым, разглядаючы міжнацыянальныя адносіны ў Расейскай імпэрыі, аўтар вышэйназванага артыкулу адзначае, што «расейская палітыка цэнтрызму і абмаскальваньня была карысна ўсім станам вялікарускай нацыі, пра што нават самая ідэёвая вялікаруская інтэлігенцыя на дзеле выявіла сябе самым заядлым ворагам нацыянальнага руху». І з гэтага Лёсік робіць выснову, што «працоўны народ на моцы свайго сацыянальнага стану павінен і мусіць быць нацыянальным і поруч са ўсімі станамі сваёй нацыі борэцца за дзяржаўную і культурна-нацыянальную самабытнасьць свайго народу». На думку аўтара, гэта дыктуецца інтарэсамі эканамічнага існаваньня працоўнага народу. «Разлучэньня тут быць не павінна, а хто думае інакш (а, дарэчы, і сёньня шмат хто думае інакш — С. Ш.), той несьвядома для сябе становіцца ворагам таго, каго маніцца бараніць», — сьцьвярджае вялікі сын беларускага народу Язэп Лёсік, імя якога, на жаль, пакуль што не ўвекавечанае ў Беларусі, **за дзяржаўную** незалежнасьць якой ён **змагаўся праз усё** жыцьцё.

Але зусім інакш разумелі **вырашэньне** нацыянальнага пытаньня **марксісты-ленінцы**, якія заўжды лічылі сябе інтэрнацыяналістамі. Ужо «Маніхвэст» першай у сьвеце кампартыі пачынаецца паведамленьнем аб тым, што па Эўропе блукае «прывід камунізму», каторы не прызнае ніякіх дзяржаўных межаў. Менавіта з тых часоў галоўным лёзунгам марксісцкага вучэньня стаў «Пралетарыі ўсіх краінаў, яднайцеся!», каторым заканчваецца той самы «Маніхвэст». Чырвоную ніткаю праходзіў гэты лёзунг і цераз праграмы ўсіх трох Інтэрнацыяналаў, якія сваімі арганізацыйнымі формамі ўяўлялі, па сутнасьці, адзіную сусьветную камуністычную партыю.

Аддаючы перавагу клясавым інтарэсам перад нацыянальнымі, заснавальнікі марксісцка-ленінскага вучэньня вельмі перадузята ставіліся да самога паняцьця «нацыяналізм», які, на іхнюю думку, азначае не ўсьведамленьне той ці іншай нацыяй сваёй годнасьці, а самаўзвышэньне адной нацыі над іншымі. А таму «нацыяналізм» яны супрацьпастаўлялі «інтэрнацыяналізму», каторы зьяўляецца ўсьведамленьнем пралетарыятам кожнай нацыі агульнасьці сваіх інтарэсаў. Інтэрнацыяналізм абвяшчае роўнасьць і салідарнасьць усіх нацыяў і народаў.



Гэткім чынам, нацыяналізм, на думку марксістаў-ленінцаў, ёсьць буржуазная ідэалёгія, скіраваная на распальваньне нацыянальнай варожасьці і расавай нянавісьці, у той час як інтэрнацыяналізм ёсьць уласьцівы толькі рабочай клясе. У сваёй працы «Крытычныя нататкі да нацыянальнага пытаньня» Ленін пісаў: «Буржуазны нацыяналізм і пралетарскі інтэрнацыяналізм — вось два непрымірыма-варожыя лёзунгі, каторыя адпавядаюць двум вялікім клясавым лягером усяго капіталістычнага сьвету і адлюстроўваюць дзьве палітыкі (больш таго, і два сьветаадчуваньні) у нацыянальным пытаньні». Менавіта клясавы падыход і рэвалюцыйная мэтазгоднасьць, а не нацыянальныя інтарэсы, ставіліся на першае месца й пры рэалізацыі бальшавікамі на практыцы абвешчанага Леніным лёзунга аб праве нацыяў на самавызначэньне. Так, у рэзалюцыі «Таронінскай нарады» (1913 г.) гаварылася: «...пытаньне аб праве нацыяў на самавызначэньне (інакш кажучы, забясьпечаньне Канстытуцыяй дзяржавы цалкам свабоднага й дэмакратычнага пытаньня аб аддзяленьні) недаравальна зьмешваць з пытаньнем аб мэтазгоднасьці аддзяленьня той ці іншай нацыі. Гэтае апошняе пытаньне сацыял-дэмакратычная партыя павінна вырашаць у кожным асобным выпадку **выключна самастойна з пункту гледжаньня інтарэсаў усяго грамадзкага разьвіцьця й інтарэсаў клясавай барацьбы за сацыялізм». Дый быў абвешчаны названы лёзунг хутчэй як прапагандысцкі «ў сувязі з чарнасоценным вялікарускім нацыяналізмам, які...** спаганіў справу нацыянальнага сумеснага жыцьця». У лісьце да С. Шаўмяна Ленін прама гаворыць: «Аддзяленьне ёсьць зусім ня наш плян. Аддзяленьне мы зусім не праведуем. Увогуле, мы супраць аддзяленьня». Менавіта таму ні ў вадной Савецкай Канстытуцыі не было мэханізму рэалізацыі гэтага права саюзных рэспублікаў — яно толькі дэкляравалася. Што датычыць практыкі, дык трагедыю ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня ўзмацняла яшчэ й тое, што ў першым савецкім урадзе наркамат па нацыянальных пытаньнях, а пазьней партыю й краіну, узначаліў Іосіф Сталін, які, на думку Льва Троцкага, быў складам розуму ўпартым эмпірыкам, пазбаўленым творчага ўяўленьня. Менавіта Сталін падтрымаў на пленуме ЦК РКП (б) 24 сьнежня 1924 году кіраўніцтва Паўночна-Заходняга абкама РКП (б), якое было супраць абвешчаньня Беларусі самастойнай рэспублікай. І толькі неабходнасьць абароны заваёваў Кастрычніцкай рэвалюцыі падштурхнула бальшавікоў на стварэньне вакол Расеі ланцуга савецкіх рэспублікаў. Менавіта з гэтаю мэтаю, а ня дзеля працьвітаньня народаў, як гэта сьцьвярджалася пазьней у афіцыйнай гісторыі, да канца 1918 году былі створаныя Эстонская, Латвійская й Літоўская рэспублікі, а годам раней — Украінская. Затрыманьне ж стварэньня Беларускай рэспублікі тлумачыцца тым, што ЦК РКП(б) спадзяваўся на сацыялістычную рэвалюцыю ў Польшчы. І калі б яна адбылася, дык Беларусь як дзяржава не спатрэбілася б для прыкрыцьця Савецкай Расеі з захаду. Але паколькі сацыялістычная рэвалюцыя ў Польшчы не адбылася, патрэбная была альтэрнатыва створанай напачатку 1918 г. без удзелу бальшавікоў БНР, — вось і давялося ноччу з 1 на 2 студзеня 1919 года хуценька прымаць пастанову аб утварэньні БССР. Пры стварэньні ў 1922 г. СССР Сталін прытрымліваўся больш жорсткай цэнтралізацыі, прапанаваўшы г. зв. «аўтанамізацыю», а ў сакавіку 1929 г. наогул вылучыў тэорыю зьліцьця ўсіх нацыяў у адну, што ажыцьцяўлялася ў наступныя гады. І ўсіх тых, хто гэтаму пярэчыў, называлі нацыяналістамі ды рэпрэсавалі.

Нацыяналізм, лічылі бальшавікі, праяўляецца й як вялікадзяржаўны шавінізм, і як адкрыты фашысцкі нацызм прыгнятаючай нацыі, а таксама й як мясцовы нацыяналізм прыгнечанай нацыі, каторая імкнецца да сваёй замкнутасьці й не давярае іншым нацыям. Праўда, бываюць пэрыяды, калі марксісты-ленінцы прызнаюць праяўленьне нацыяналізму гістарычна-неабходнай зьявай — гэта ў час нацыянальна-вызваленчых рухаў нацыяў за сваю незалежнасьць.

У сапраўднасьці ж, па-першае, калі ёсьць нацыя, дык ёсьць і нацыяналізм, бо бяз поўнага ўсьведамленьня сваёй годнасьці, без праяўленьня цэлай сукупнасьці рэакцыяў на зьнешнія і ўнутраныя падзеі, каторыя праяўляюцца ня толькі ў часе нацыянальна-вызваленчых рухаў, але й штодзённа, — нацыя існаваць ня можа. «Нацыя, — пісаў рускі філёзаф М. Бярдзяеў, — ёсьць дынамічная субстанцыя, а не гістарычная функцыя, якая праходзіць, яна каранямі сваімі ўрастае ў таемную глыбіню жыцьця. Нацыянальнасьць ёсьць становучае ўзбагачэньне быцьця, і за яе трэба змагацца, як за каштоўнасьць. Нацыянальная еднасьць больш глыбокая, чым еднасьць клясаў, партыяў і ўсіх іншых гістарычных фармаваньняў у жыцьці народаў, якія праходзяць. Кожны народ змагаецца за сваю культуру й за вышэйшае жыцьцё ў атмасфэры нацыянальнай кругавой парукі». Таму нацыяналізм — гэта неабходная ўласьцівасьць кожнай нацыі, якая жыве паўнакроўным жыцьцём.

Па-другое, нельга супрацьпастаўляць рух за сацыяльнае паляпшэньне нацыянальным адносінам. Бо, як правільна падкрэсьліваў у сваёй працы «Інтэлігенцыя й сацыялізм» Аўгуст Бебель, «работнік праводзіць сваё жыцьцё й змаганьне за лепшыя варункі жыцьця ў тым краі, дзе нарадзіўся, дзе гадаваўся, мову ды звычаі якога ён ведае, ва ўмовах якога жыве, — ён толькі хоча перарабіць гэтыя варункі паводле сваіх ідэяў». Гаворачы аб адносінах у дадзеным выпадку сацыялістычнага руху да нацыі, Бебель кажа, што «мы ня хочам зьмешвацца ў агульную міжнародную кашу». І далей задае пытаньне: «Дзеля чаго мы маем выракацца сваёй народнасьці, нашай мовы, нашых звычаяў?» І зусім іншая справа, калі замест поўнага ўсьведамленьня сваёй годнасьці нацыя захворвае на самаўзвышэньне над іншымі нацыямі. Тады, сапраўды, ейны нацыяналізм пераходзіць у гэткія пачварныя формы, як вялікадзяржаўны шавінізм і нават у адкрыты фашыстоўскі нацызм.

Па-трэцяе, усякая паважаючая сябе нацыя, калі яна не захварэла на вялікадзяржаўны шавінізм, абавязкова паважае годнасьць і роўныя правы іншых нацыяў, а гэта значыць, што ёй адначасова ўласьцівыя і нацыяналізм, і інтэрнацыяналізм у здаровым сэньсе гэтых паняцьцяў. І тут няма ніякага парадоксу. Нацыяналізм і інтэрнацыяналізм нельга супрацьпастаўляць адзін аднаму. Яны знаходзяцца ў дыялектычнай сувязі. Бяз поўнага ўсьведамленьня сваёй нацыянальнай годнасьці (нацыяналізму) нацыя ня можа паважаць правы й годнасьць іншых нацыяў. У той самы час без павагі правоў і годнасьці іншых нацыяў (інтэрнацыяналізму) нацыяналізм прымае пачварныя формы вялікадзяржаўнага шавінізму й нацызму.

Але й інтэрнацыяналізм (прызнаньне за іншымі нацыямі роўных правоў, салідарнасьць і супрацоўніцтва паміж нацыямі) таксама можа праяўляцца ў звыродлівай форме, пры якой інтарэсы карэннай нацыі прыносяцца ў ахвяру нейкай агульнай мэце ўсіх або многіх іншых нацыяў, як гэта імкнуліся рабіць і робяць марксісты-ленінцы. Робіць гэта й Аляксандар Лукашэнка. Ён зьневажае годнасьць беларускага народу, ганьбіць ягоную мову й, наогул, хоча ў мэтах задавальненьня сваіх уладалюбных амбіцыяў далучыць Рэспубліку Беларусь да Расейскай Фэдэрацыі. І вось, каб гэтага не адбылося, беларускі народ павінен усьведамляць сваю нацыянальную годнасьць, быць нацыяналістам і берагчы незалежнасьць сваёй дзяржавы, у барацьбе за якую аддалі сваё жыцьцё мільёны нашых суайчыньнікаў. Кожнаму сумленнаму беларусу трэба памятаць, што без нацыянальнай годнасьці псыхалёгія народу, нягледзячы на такія ягоныя станоўчыя рысы, як працаздольнасьць, талерантнасьць ды інш., — стаецца псыхалёгіяй рабоў, каторых вельмі лёгка прымусіць працаваць на прадстаўнікоў іншага народу. Больш таго, аб'яднаньне Беларусі з Расеяй прывядзе да зьнікненьня беларусаў як этнасу. Таму ўсяму беларускаму народу, незалежна ад сацыяльнага становішча й веравызнаньня ягоных прадстаўнікоў, трэба, як гэта падкрэсьліваў Язэп Лёсік, аб'яднацца й супрацьпаставіць цемрашальскім намерам А. Лукашэнкі свой сьцьвярджальны лёзунг, у каторым зьліліся ў адно й паганская закліканьне, і хрысьціянская малітва, і заклік ужо сёньняшняга пакаленьня паднялца на барацьбу за незалежнасьць Радзімы, — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Сямён Шарэцкі**

# У татарскім палоне

*Заканчэньне. Пачатак у N 24*

## 6. Першы вечар на «фазэньдзе»

Прывезьлі мяне ў звычайную трохпакаёвую кватэру на трэцім паверсе пяціпавярховага дому. Завялі ў адзін з пакояў, дзе ў куце мяне ўжо чакаў зашмальцаваны матрац з гэткай самай падушкай – новае маё «лежбішча». Пасадзілі на матрац, далі выпіць чарку гарэлкі, каб усё выглядала натуральней, потым паставілі перада мною тэлефон, да скроні прыставілі «ствол»: «Звані!». Папярэдзілі, што калі ня тое буду гаварыць, дык мне капцы. Я набраў нумар тэлефону ў Вільні, гаварыў «тое». Часам У. выхопліваў трубку ў мяне з рук, слухаў адказы «літоўца», каторы меўся прыехаць з грашыма за «таварам», якога не было. (Назаўтра бандыты падключылі паралельны аўтамат і праслухоўвалі кожнае маё слова. А ў свой першы вечар на «фазэньдзе» я меў магчымасьць, нейкім словам-паролем папярэдзіць «літоўцаў», каб яны не выяжджалі. Пра такі «пароль» я, аднак, зь імі не дамовіўся – настолькі давяраў У.).

Зь першай маёй тэлефанічнай размовы зь Літвой вынікала нібыта, што «літоўцы» словам маім паверылі й што яны неўзабаве з задаткам (фактычна, з выкупам за маю галаву) прыедуць у N. Прыкра мне было, што мой знаёмы ў Літве, якога я (хоць і пад «ствалом») «падстаўляў», паверыў у маю «байку» й пагадзіўся прыехаць, бо ў глыбіні душы я маліў Бога, каб ён здагадаўся нейкім чынам пра маё жалю вартае становішча, не саваўся ў Татарстан. На жаль, мае першыя перамовы прайшлі гладка. Адно крыху ўсьцешыла, што выкуп за мяне зьменшыўся ў тры разы – з большымі грашыма «літоўцы» ехаць не пагадзіліся. Зрэшты, праз некальکі дзён я ад гаваркога ахоўніка В. даведаўся, што акурат такую суму запазычыў У. у іхнім бандыцкім «абшчаку» (касе) й не вярнуў. Бандыты добра яго за гэта «наказали» – парадраблялі ногі, пасьля чаго У. тры месяцы ляжаў у гіпсе. Цяпер У. з гора «патрапіў у залежнасьць» (г. зн. ужывае наркотыкі), ня мае права выяжджаць з гораду… Зразумела, мне ад такіх роспавядаў лягчэй ня сталася.

Акрыленыя сваёй першай перамогай ды бачачы маё шчырае нібыта жаданьне дапамагчы ім і сабе, ахоўнікі мае гэтым разам не завязвалі мне вочы й ня зьвязвалі рукі. Я быў упершыню накормлены смажанай бульбаю зь кіслымі агуркамі, папіў гарбаты з цукрам і маслам. Затым уладкаваўся на цюфяку й мне было дазволена глядзець тэлевізар. Ужо позна ахоўнікі заставілі дзьверы, што вялі ў прыхожую, цяжкаю тумбачкаю зь вялікай кветкай на ёй. Спалі яны па чарзе: А. – на канапе, што стаяла каля вакна, а В. – проста на падлозе каля мяне, бо нядаўна пакінуў нары, ня мог спаць на мяккім.

## 7. Яшчэ 9 дзён палону

Наступныя дзевяць дзён былі аднастайныя й падобныя адзін да аднаго. Таму апішу іх фрагмэнтальна, што найбольш запомнілася.

Я па-ранейшаму захоўваўся «ціха», ні з кім ня йшоў на блізкі кантакт. Кватэру, як высьветліў, здымалі студэнты-юрысты зь мяйсцовага ўнівэрсытэту, каторыя ў вольны ад вучобы час, пэўна, дапамагалі «бандытам». Адзін зь іх заходзіў да мяне згуляць у шахматы, распытваў пра жыцьцё ў Літве. Угэты час ахоўнікі, нібыта выпадкова, выходзілі з нашага пакою, спадзеючыся, верагодна, што я пачну «раскалвацца»: жаліцца іхняму прыяцелю, прасіць, каб дапамог мне выбрацца з пасткі, пралануваць грошы. Зразумела, я вёў з сваі партнёрам па шахматах чыста нэўтральныя размовы.

Дзякуючы посьпеху ў перамовах зь Літвой і ўзорным паводзінам мне дазволілі хадзіць па пакою, мыцца й сьцірацца ў часы, калі ў дом падавалі гарачаю ваду. Кармілі раз на дзень усё той самай смажанай бульбаю зь кіслымі агуркамі. Зрэшты, мае ахоўнікі сілкаваліся мала, тым самым, што й я, і таксама адзін раз на дзень. Было відаць, што гэта іхні звыклы, «зэкаўскі» лад жыцьця.

Учасе прахасак па пакоі, я глядзеў у вакно, арынтуючыся паступова, дзе знаходжуся, куды «рвануць», калі раптам пашчасьціць выбрацца з палону. Пакідаў у пакоі, дзе толькі можна, «сьляды» – на той выпадак, калі мяне раптам перавязуць у іншае мейсца. Аднаго разу схаваў пры сабе ручку й напісаў у прыбіральні на шматку паперы, што я заложнік і што «здаў» мяне чалавек, каторы жыве па гэткім і гэткім адрасе. Паперку схаваў у патайнай кішэні нагавіцаў. Калі вартаўнікі забываліся зачыніць дзьверы пакою, я бачыў уваходныя дзьверы, назіраў, як яны адмыкаюцца й замыкаюцца. Зразумеў, што ніякага сакрэту замок ня мае. Прыйшоў таксама да высновы, што, судзячы па ўсім, вонкавай аховы дзеля мяне не выстаўлялі, бо быў я для «бандытаў» звычайны ды выпадковы «лох-барыга» (камэрсант, якога ўдалося празь ягоную залішнюю даверлівасьць заманіць у пастку), каторы нічога ня быў вінны «братве» й якога трэба было толькі «раскруціць» дзеля папаўненьня «абшчаку».

Была поўная невядомасьць, што будзе са мной і зь «літоўцамі», калі тыя прыедуць у N. Хаця В., каторы сымпатызаваў мне, абяцаў пагаварыць з «паханом» (старшым па званьню бандытам), каб усіх нас жывымі адпусьцілі дамоў і нават машыну не адбіралі, – я ня дужа спадзяваўся на гэткі «шчасьлівы» канчатак сваіх «прыгодаў». Самым лепшым выйсьцем у маім становішчы быў бы пабег, думка пра які ні на хвілю мяне не пакідала. У выпадку, калі б я вырваўся, я губляў толькі тое, што ўжо й так згубіў: грошы, дакуманты, рэчы. А самае галоўнае – не «падстаўляў» сваіх прыяцеляў зь Літвы. Але непамысна й страшнавата было ўяўляць, што чакала мяне ў выпадку няўдачы: зноў пабоі, каўпак на галаве, прусакі…

Самоту маю й няпэўнасьць скрашвалі сваімі разважаньнямі В., катораму, відаць, імпанавала гутарыць з чалавекам абазнаным у філязофіі й літаратуры. Мне таксама было цікава пачуць падрабязнасьці пра апошнія войны ў Расеі й цяперашняе жыцьцё ў «зонах». На маё пытаньне, як паводзіцца, калі раптам патрапіш туды, В. абнародваў тры галоўныя запаветы ці то зэкаў, ці то буддыстаў:

– Нікога ня бойся;
– Гавары праўду (ці маўчы);
– Нікому ня вер.

Слушныя й карысныя, як мне здалося, парады, каторыя неўзабаве дапамаглі мне. Паверыўшы, што я пісьменьнік (у мяне ў дакумантах быў пісьменьніцкі білет), В. ахвяраваў мне свой літаратурна-філязофскі твор, фрагмэнт каторага падаю ніжэй:

## 8. Я любіў...

Я раньше всё время жил в каком-то выдуманном мире: школа, дом, родители, работа, армия. Армия… Попав в этот адский мир войны, во мне всё перевернулось: идеалы, мысли, желания. Хотя жужжание пуль и не располагает к глубоким размышлениям, тем не менее там они меня всё время посещали. Зачем? почему? за что? – эти вопросы хотелось не задавать, а кричать! Вот и сейчас, сидя в тюрьме, по прошествии пяти лет после того кромешного ада, который я прошёл в пьяном угаре и безмолвной ярости, – пытаюсь проанализировать, что же во мне изменилось после этого «сеанса шоковой терапии»? То, что я стал жёстким и колючим, это однозначно, хотя и мягко сказано. Я стал жестоким. Вспоминая тот случай, из-за которого я получил свою первую судимость, я поражаюсь той жестокости, с какой я всё это проделал. Кругом была кровь, а мне было всё мало. В тоже время я ужасаюсь своей собственной жестокости и бесповоротности моей натуры и всё больше и больше утверждаюсь в мысли, что уже не изменюсь. Я очень молод, но вместо справедливости, радости и счастья во мне, как в последней гнилушке, осталась только злость, даже больше, чем злость, – ярость, ненависть, подозрение и месть. Ненависть не ко всему живому, а к Человеку. Вот! Поэты воспевают, что человек – венец природы… Да никакой он не венец, а самое гнусное её изобретение, её самая большая ошибка.



Я боюсь своих мыслей. О чём бы я не стал думать, всё у меня в конечном итоге сводится либо к гнусности, либо к низменным порывам человека. Я просвета не вижу! Iэто страшит. Но ведь с вечной злобой жить нельзя, и такой образ мышления моей натуры приведёт меня либо в дурдом, либо к пули. Я понимаю всё это, но остановиться не могу. Живу и тону в своей же ярости, всё делаю с каким-то остервенением и кончу, наверное, свою жизнь как бешеный пёс, чего и заслуживаю. Встречаюсь с человеком, чувствую интуитивно, что он человек хороший, но ищу в нём плохие черты. Или, не найдя их, рву с этим человеком все отношения…

У меня какая-то мания окружать себя отбросами общества и потом их же и топтать. Иногда думаю: «Кто же тебе права дал людей наказывать?» Не знаю и наверное никогда не пойму. Почему я отталкиваю хороших людей, даже когда они сами ко мне стремятся, огорождая себя ничтожествами? А если так, то я не имею никакого права их наказывать, потому что стою на одной социальной ступеньке с ними, стало быть не лучше их. Но почему я считаю себя лучше их, правильней, справедливее? (Не могу сказать, что я не способен к самоанализу. Так что в объективности моих рассуждений о себе сомневаться не приходится). Почему же так происходит? Может это болезнь, мания величия? По-моему симптомы не те. Так выходит, что я до такой степени прогнил? Опять же не соглашусь, взяв из своей жизни несколько элементарных примеров. А может я слишком требователен к себе? Но я никогда не требую от человека, чего не делаю сам!..

Я сильно запутался в своих мыслях, никого не допускаю в свой внутренний мир. Хочется жить просто, но мне с самим собой сладить не просто. Пытаюсь понять, что со мной стало после армии? Я же никогда раньше таким не был. Веселился, когда было весело, плакал, когда было плохо, я любил!

## 9. Пабег

У чаканьні выезду сваіх «вызваліцеляў» зь Літвы правёў я так дзевяць дзён. Нарэшце, быў прызначаны дзень выезду. За суткі перад тым узрадаваныя навіною ахоўнікі, і разам зь імі У., пастанавілі адзначыць посьпех у такой нетрывалай з усіх бакоў справе, як захоп і ўтрыманьне заложніка. У. недзе пад абед прывёз дзьве літровыя пляшкі гарэлкі й два бутлі піва, кілбасаў, цыбулі. В. ненадоўга зьнік і прывёз з сабой «пахана», ужо падлітага, брытагаловага, невысокага ростам татарына пад шэсьцьдзесят гадоў. «Пахан» сеў поруч са мною, трохі параспытваў у мяне пра Вільню, хітаў пры гэтым сваёй круглавіднай галавою й чамусьці радасна ўсьміхаўся, хоць я нічога сьмешнага не гаварыў. З намі ён доўга не сядзеў.

Гарэлка ўперамешку зь півам падзейнічалі, як мае быць. Праз якія дзьве гадзіны я й мае ахоўнікі «вырубіліся» (пазасыпалі). Я заснуў, дзе сядзеў, на канапе. Калі нечакана прачнуўся, убачыў, што дзьверы насупраць, як заззвычай, застаўленыя тумбачкаю з кветкай на ёй, а на маім месцы, на цюфяку, храпіць (!) А. Нікога больш відаць не было. У астатніх пакоях было ціха. А, трэба сказаць, побач з канапай былі яшчэ адны дзьверы ў сумежны амаль пусты пакой, з гантэлямі, штангай ды іншымі прыладамі, у якім кампанія маіх новых знаёмых часам расслабаняла зацеклыя падчас нялёгкай «службы» цягліцы і зь якога таксама быў выхад у прыхожую… Дзьверы гэтыя былі застаўленыя толькі столікам на колках, на каторым мы кагадзе «бяседавалі».

Я неяк адразу адчуў, што іншага зручнага для «рыўка» моманту ў мяне ўжо ня будзе. Успомніўшы пра першы «зэкаўскі» запавет («нікога ня бойся») і прыслухваючыся да храпу А., я ціхенька адсунуў столік ад дзьвярэй…. Дзьверы таксама адчыніліся бязь лішняга скрыпу. Асьцярожна, каб ня рыпнуць, паднявшыся з канапы, я мякка выйшаў у сумежны пакой. Пастаяў там крыху. Пачуў, што з пакою насупраць даносіцца храп ці то «пахана», ці то В. Выйшаў у прыхожую, падыйшоў да выхадных дзьвярэй, узяў у адну руку свае прыхаваныя ў куту чаравікі, а другой – павярнуў засаўку замка, так, як тое шмат разоў рабіў у сваіх думках. Штурхануў дзьверы, і ў адной кашулі і ў шкарпэтках зьбег па сходах на двор. Пабег на ажыўленую вуліцу. У двухстах мэтрах ад мейсца майго зьняволеньня, на трамвайным прыпынку, я пад зьдзіўленымі позіркамі людзей абуўся. Тут падасьпеў і трамвай…

## 10. Эпілёг

Пра тое, як я выбраўся з зусім чужога мне гораду, бяз грошай і пашпарту, хто й чым дапамог мне, – я распавядаць ня буду. Зразумела й так, што «сьвет не бяз добрых людзей». Скажу толькі, што Расея цяпер настолькі небясьпечная краіна, што калі табе раптам пашчасьціць вырвацца з «татарскага» ці кольцы-якога іншага палону, дык ня варта зьвяртацца да мяйсцовых ворганаў міліцыі, бо там могуць спачатку зрабіць выгляд, што табе ня верась, а потым «здаць» тым самым «бандытам», а не дык і «замочаць» (заб'юць) проста ў пастарунку… Усе там «павязаныя». Так што, ратуючыся колькі дзён ад бандытаў, я найперш рабіў усё, каб не патрапіць у лапы міліцыянтаў.

Прыемна было аднак у першую пасьля пабегу (яшчэ халодную) травеньскую ноч сядзець на нейкіх дачах, прыхінуўшыся, каб не было так зімна, сьпінай да драўлянай сьцяны дамка, пад азораным небам і слухаць жыцьцярадаснае крумканьне жабаў у безымянным прытоку Кама-ракі. Слухаць і быць задаволеным, што, слава Богу, нікога не «падставіў», што ўсё абыйшлося малой крывёю, што «плакалі грошыкі» маіх «дабрадзеяў», каторыя ўжо «раскаталі губу», што – самае галоўнае – захоўваўся, як мужчына.

А. М.

# УСПАМІНЫ ПРА ДЫРЭКТАРА ВБГ МІКОЛУ АНЦУКЕВІЧА

Мне давялося вучыцца ў ВБГ ў апошнія гады ейнага йснаваньня ў ваенны час. Аднак маё знаёмства з гімназіяй распачалося задоўга да гэтага, таму што мой бацька, настаўнік ВБГ М. Анцукевіч, часта браў мяне з сабой на працу ці я сам наведваў яго ў гімназіяльным памешканьні, каторае месьцілася тады ў знакамітых Базылянскіх мурох. Каля ўваходу гімназіі, адразу налева, былі дзьверы Беларускага музэю імя І. Луцкевіча, і я добра памятаю, як бацька ўпершыню паказаў мне ягоныя экспанаты, Мяне, яшчэ малога, асабліва ўразілі рыцарскія дасьпехі. Запомнілася таксама, што экспанатаў было шмат, а мейсца ў музэі не ставала.

Бацька мой быў запрошаны на працу ў ВБГ ў 1933 годзе, адразу пазьля набыцьця ёю статуса дзяржаўнай гімназіі (1932 год). Ён атрымаў мейсца выкладчыка латыні й адначасна выконваў абавязкі інспэктара выхаваўчай працы, курыраваў скаўцкую дружыну гімназістаў. У 1936 годзе (наколькі я памятаю са словаў бацькі) пасьля выкрыцьця ў гімназіі ячэйкі КПЗБ сярод вучняў й арышту многіх зь іх Р. Астроўскі быў зьняты з дырэктарскай пасады й на ягонае мейсца назначаны М. Анцукевіч.

У 1937 годзе ВБГ была перааведзеная з Базылянскіх муроў у памешканьне гімназіі імя Ю. Славацкага на Дамініканскую, 3/5. Уваходзілася ў ВБГ цераз браму з Дамініканскай, адразу за рогам Нямецкай і Дамініканскай, якраз насупраць гарадзкога магістрата, на мейсцы каторага цяпер разьмешчаная школа імя С. Неріс. ВБГ знаходзілася ў глыбіні двара ў правым куце будынку на другім паверсе. Шкада толькі, што будынак гэты быў цалкам зьнішчаны падчас баёў за горад улетку 1944-га.

Пэрыяд, калі М. Анцукевіч заступіў на дырэктарскую пасаду, быў вельмі цяжкі як для беларускай грамадзкасьці Заходняй Беларусі, гэтак і для ВБГ. Акурат гэтым часам віленскі ваявода Бацянскі павёў рашучы наступ на тады ўжо апошнюю з ацалелых беларускіх гімназіяў. Паводле праведзенай у тыя гады польскімі ўладамі рэформы сярэдняй адукацыі, ВБГ з поўнай 8-клясной гімназіі была пераўтвораная ў няпоўную 4-клясную бяз права стварэньня свайго ліцэю. (Сутнасьць рэформы зводзілася да пераўтварэньня 8-гадовых гімназіяў у школы двух ступеняў: 4-гадовую агульнаадукацыйную й 2-гадовы спэцыялізаваны ліцэй, напрыклад, гуманітарнага ці матэматычнага кірунку). Без ліцэю ВБГ фактычна ператваралася ў няпоўную сярэднюю школу, пасьля якой ахвотным вучыцца далей усё адно даводзілася йсьці ў польскія ліцэі. Зразумела, такое становішча не задавальняла ані гімназістаў, ані настаўнікаў, ані беларускую грамадзкасьць. Ад імя бацькоў ВБГ быў падрыхтаваны адумысловы «Мэмарыял» на імя міністра рэлігіі й грамадзкай асьветы за подпісам С. Караля, у каторым адзначалася, што насельніцтва г. зв. Крэсаў Усходніх пры адсутнасьці пачатковых беларускіх школаў ня можа належным чынам падрыхтаваць сваіх дзяцей да паступленьня ў 4-клясную беларускую гімназію ў выніку скасаваньня першых двух клясаў гімназіі старога кшталту. У «Мамэрыяле» таксама выказвалася просьба аб адкрыцьці беларускага ліцэю. Усе падобныя захады аднак аказаліся дарэмнымі, і ў 1937 годзе быў апошні выпуск за поўны курс гімназіі, г. зн. апошняя «вялікая матура».

У 1938 годзе бацьку выклікалі да ваяводы Бацянскага й той прапанаваў яму арганізаваць збор подпісаў ад бацькоў навучэнцаў ВБГ за тое, каб усё навучаньне ў гімназіі перавесьці на польскую мову. Натуральна, што бацька адмовіўся, за што неадкладна быў зьняты з пасады дырэктара й высланы ў Ломжу на пасаду настаўніка латыні ў польскай гімназіі. Акт здачы справаў дырэктару польскай гімназіі імя Ю. Славацкага датаваны 4 кастрычніка 1938 году. На мейсца Анцукевіча быў назначаны В. Кавалевіч.

Мой бацька, ніколі не займаючыся палітыкай, патрабавальна ставіўся да свайго пэдагагічнага абавязку выхаваньня беларускай моладзі на глебе нацыянальных, культурных каштоўнасьцяў і народных традыцыяў. Менавіта праз гэта ён быў залічаны санацыйнымі ўладымі ў шэрагі «неблаганадзейных» і ўлетку 1939-га быў арыштаваны ў якасьці заложніка ад беларусаў Польшчы разам зь іншымі беларускімі дзеячамі: І. Шутовічам, А. Шутовічам, Я. Найдзюком.

З прыходам у Вільню Чырвонай арміі (19 верасьня 1939 году) М. Анцукевіч быў вызвалены з-пад арышту й актыўна падключыўся да беларусізацыі Віленшчыны. Напрыканцы верасьня ён, згодна прапановы беларускай грамадзкасьці Вільні, зноў абняў пасаду дырэктара ВБГ. Другі пэрыяд ягонага дырэктарства суправаджаўся вялікай фізычнай і маральнай нагрузкай, выкліканай небывалым наплывам ахвотных вучыцца як школьнага, гэтак і асобаў старэйшага веку зь сёлаў і вёсак амаль усёй Заходняй Беларусі. Праца ў ВБГ тады вялася ў некалькі зьменаў, колькасьць навучэнцаў дасягала некалькіх тысячаў (наколькі я помню). Не ставала памешканьняў і школьнага абсталяваньня, таму мой бацька быў страшэнна змучаны й практычна прыходзіў дадому толькі на ноч. Гэтым часам ВБГ месьцілася на сваім ранейшым месцы на Дамініканскай, а часткова займала памяшканьне польскай гімназіі імя А. Міцкевіча.

У гэты пэрыяд свайго дырэктарства М. Анцукевіч прыйняў на працу ў гімназіі шэраг новых выкладчыкаў: Р. Падабед, А. Багдановіча, М. Пецюкевіча, З. Новік, а на пасаду сакратара — Л. Галяка. Курыраваў тады ВБГ у Аддзеле народнай асьветы й культуры Віленскай акругі Ф. Грышкевіч, выпускнік гімназіі.

Як ведама, бальшавікі ў Вільні трымаліся нядоўга, усяго 40 дзён. Пасьля чаго Вільня разам зь Віленскім краем была перададзеная буржуазнай Літве. У зьвязку з гэтым пераважная большасьць вучняў ВБГ, аказаўшыся «за мяжою», змушаная была выехаць бліжэй да бацькоў, у БССР. У выніку, колькасьць вучняў ВБГ катастрафічна зьменшылася, бо ў ёй практычна засталіся толькі жыхары Вільні й ейных ваколіцаў. М. Анцукевіч заставаўся дырэктарам ВБГ да першай паловы лістапада 1939-га, калі гімназію пераўтварылі ў дзяржаўную 3-клясную Беларускую прагімназію. Дырэктарам прагімназіі быў назначаны кс. А. Станкевіч, каторы меў даволі шырокія сувязі ў літоўскіх колах. М. Анцукевіч застаўся ў гімназіі настаўнікам латыні.



*1892 - 1971*

Месьцілася прагімназія на тым самым мейсцы, на Дамініканскай, 3/5. Там жа была адкрытая й Беларуская дзяржаўная пачатковая школа. Галоўнай умовай паступленьня як у прагімназію, гэтак і ў пачатковую школу было беларускае паходжаньне абодвух бацькоў (паводле пашпарту).

Пасьля ўсталяваньня ў Літве савецкай улады, ксёндз А. Станкевіч, натуральна, ня мог ачольваць савецкую школу. Зважаючы на пажаданьні беларускай грамадзкасьці Вільні й бацькоў, дырэктарам (трэцяга разу!) быў назначаны М. Анцукевіч (напрыканцы лета 1940-га). Гэтым разам працаваць у школу прыйшло шмат новых настаўнікаў, напрыклад: А. Карнюк і Н. Мішчова. Застаўся працаваць у прагімназіі й кс. А. Станкевіч, канечне, не выкладчыкам Закону Божага, а настаўнікам беларускай мовы й гісторыі. Дзякуючы свайму аўтарытэту, М. Анцукевічу ўдалося «прыкрыць» кс. Адама ажно да пачатку 1941-га, калі ўлады ўсё ж звольнілі яго й разам зь ім іншага шматгадовага выкладчыка гімназіі А. Егера. Нягледзячы на мажлівы перасьлед з боку ўладаў, М. Анцукевіч зарганізаваў ім у гімназіі ўрачыстыя провады, пра што захаваўся запіс у ягоным дзёньніку.

Вялікай падзеяй у жыцьці ВБГ было наведаньне яе ў траўні 1941-га клясыкамі беларускай лі-таратуры Я. Коласам і Я. Купалам, пра што таксама сьведчыць запіс у бацькавым дзёньніку (17 траўня 1941 году). Падчас гэтага візыту быў зроблены фатаздымак высокіх гасьцей у акружэньні вучняў і настаўнікаў на гімназіяльным ганку. Фатаздымак доўгі час перахоўваўся ў бацькавым архіве, аднак пасьля ягонай сьмерці ў 1971 годзе ён некуды зьнік.

Пасьля заканчэньня 1940/1941-га навучальнага году пачалася савецка-нямецкая вайна. У новых умовах беларуская грамадзкасьць Вільні пачала хадайнічаць перад акупацыйнымі нямецкімі ўладамі аб захаваньні ВБГ. З падобнымі просьбамі зьвярталіся да ўладаў і прадстаўнікі расейскай абшчыны Вільні. Пасьля даволі працяглых кансультацыяў немцы напрыканцы лета 1941 году дазволілі арганізаваць супольную беларуска-расейскую гімназію. М. Анцукевіч, каторы карыстаўся вялікім аўтарытэтам і ў расейцаў, і ў беларусаў, чацьвертага разу быў назначаны дырэктарам гэтай новай гімназіі. Такім чынам з 1 верасьня 1941 году ВБГ адрадзілася ў поўным сваім аб'ёме 8-кляснай гімназіі, праўда, як частка адзінай беларуска-расейскай гімназіі.

Месьцілася новаствораная гімназія ў памешканьні былой Пушкінскай гімназіі на Вастрабрамскай, 27. Фактычна, навучаньне ў расейскай і беларускай частцы гімназіі йшло паводле сваёй праграмы й забясьпечвалася сваім настаўніцкім калектывам. Пры супольным дырэктары канкрэтнае кіраўніцтва зьдзяйснялася школьнымі інспэктарамі. Агульная колькасьць навучэнцаў у Віленскай беларуска-расейскай гімназіі (ВБРГ) складала каля 500 вучняў, прычым большасьць іх прыпадала на беларускую частку.

У гэты пэрыяд да М. Анцукевіча зьвярталася шмат кандыдатаў на настаўніцкія пасады ў ВБРГ, і яму каштавала вялікай вытрымкі й сілаў, каб адабраць найбольш годных. Пэўныя ахвотнікі прыходзілі нават да нас на кватэру, аднак усіх прыйняць у гімназію было немагчыма, і шмат хто вяртаўся з крыўдай на майго бацьку.

У калектыве беларускіх настаўнікаў збольшага захаваліся былыя выкладчыкі, напрыклад, А. Сакалова-Лекант, Р. Падабед, З. Новік, А. Карнюк (будучы дырэктар Віленскай беларускай настаўніцкай сэмінарыі), Н. Міцова, Н. Падагель, Невядомскі. На пасаду настаўніка Закону Божага быў зноў назначаны кс. А. Станкевіч, каторы пасьля выкладаў яшчэ й гісторыю.

Сярод новых настаўнікаў былі выкладчык Закону Божага для праваслаўных а. А. Несьцяровіч, выкладчык латыні І. Тэадаровіч, выкладчык матэматыкі П. Радзюк, выкладчык сьпеваў Л. Фёдараў. Вялікую трывогу меў мой бацька, рэкамэндуючы на пасаду настаўніка беларускай мовы Ф. Грышкевіча (праз ягонае савецкае мінулае). Але ўсё абыйшлося: ягоная кандыдатура ня выклікала падозраньняў, а ў далейшым ён пачаў карыстацца даверам новых уладаў.

У ваенны час я таксама стаўся вучнем ВБРГ. З надыходам халадоў гімназію не было чым ацяпляць, і даводзілася гімназістам разам з настаўнікамі й дырэктарам нарыхтоўваць для гімназіі дровы на адведзеных дзеля гэтага дзялянках. Аднак матар'яльныя цяжкасьці былі толькі паўбядою. Вельмі ўскладнялі жыцьцё разыходжаньні палітычных сымпатыяў і перакананьняў у настаўніцкім калектыве ВБРГ, каторыя почасту былі дыямэтральна супрацьлеглымі. У гімназіі было шмат сымпатыкаў савецкай улады (нават чырвоных партызанаў), былі й шчырыя прыхільнікі Трэцяга Рэйху. У гэткіх умовах дырэктару гімназіі было нялёгка захаваць рэнамэ падначаленай яму ўстановы ў вачох акупацыйных уладаў ды падтрымоўваць нармальныя ўзаемадачыненьні ў настаўніцкім калектыве. Неаднойчы даводзілася вартаўнікам, а не, дык і самому дырэктару, замазваць прасавецкія лёзунгі й надпісы на сьценах калідораў гімназіі ды ў прыбіральні. Гімназіяльнаму кіраўніцтву ў той пакручасты час патрабавалася вялікая вытрымка ды ўменьне дыпляматычна стрымліваць праявы разнастайных палітычных погдядаў, не дапускаючы супрацьстаяньня ў школе, а галоўнае — не дапускаючы выхаду падобных фактаў за межы школы. Менавіта дзякуючы аўтарытэту й прыродным пэдагагічным здольнасьцям М. Анцукевіча, у гімназіі ўдавалася захоўваць спакойныя таварыскія дачыненьні сярод вучняў і настаўнікаў.

У першыя месяцы дзейнасьці ВБРГ ў ёй вучыліся пераважна вучні-беларусы. Аднак ужо напрыканцы 1941 году (асабліва, пачынаючы з 1942-га) ў гімназію папрыходзіла вучыцца шмат палякаў, таму што польскія школы ў Вільні пастановаю нямецкіх уладаў былі закрытыя (палякам забаронена было вучыцца). Для паступленьня ў нашую гімназію школьнікам-палякам неабходна было мець пасьведку пра тое, што адзін зь ягоных бацькоў ёсьць беларус. Гэткім чынам у маім 3 клясе ў 1942/1943 годзе большую частку складалі палякі. Адносінымі паміж імі й намі, беларусамі, былі таварыскія, настаўнікі ставіліся да ўсіх вучняў аднолькава. Аднак на майго бацьку пэўныя асобы скардзіліся ўладам за незаконны прыём палякаў у гімназію, і яму даводзілася рознымі спосабамі апраўдвацца й абараняць гімназістаў ад выключэньня.

У бацькавым габінэце меўся моцны радыёпрыёмнік, каторы застаўся яму ў спадчыну ад савецкай воінскай часткі, што займала да вайны гімназіяльны будынак. Бацька рэгулярна слухаў перадачы пра падзеі на фроньце, у тым ліку й забароненыя: зь Лёндана й Масквы. Хтосьці з супрацоўнікаў напісаў на яго данос капітану Краўзе, прадстаўніку нямецкага камандаваньня пры Аддзеле асьветы г. Вільні. У выніку, М. Анцукевіч быў адразу зьняты з дырэктарства й звольнены з працы. Яму толькі цудам пашчасьціла пазьбегчы канцлягеру.

Пасьля звальненьня М. Анцукевіча перастала йснаваць і адзіная ВБРГ. На ейным мейсцы стварыліся дзьве самастойныя гімназіі: ВБГ засталася ў тым самым памешканьні на Вастрабрамскай, а расейская гімназія перайшла на Нямецкую, на двор лютаранскай кірхі. Дырэктарам ВБГ быў прызначаны Ф. Грышкевіч, а дырэктарам ВРГ — А. Фрэйман, каторага мой бацька прыняў у 1941 годзе настаўнікам нямецкай мовы. Пасьля сканчэньня сьледзтва ў справе майго бацькі, Ф. Грышкевіч прыняў яго ў гімназію настаўнікам латыні. Адначасна М. Анцукевіч уладкаваўся выкладчыкам гісторыі й псыхалёгіі ў Віленскую беларускую настаўніцкую сэмінарыю.

Праца М. Анцукевіча ў ВБГ фактычна закончылася разам зканчаткам існаваньня самой гімназіі, на завяршэньні 1943/1944 навучальнага году. За 25 гадоў ейнай дзейнасьці зьмянілася 14 дырэктароў, — і ўсе яны, за выняткам М. Анцукевіча, працавалі ва ўмовах адной палітычнай сыстэмы: пры паляках, пры саветах, пры літоўцах, пры немцах. М. Анцукевіч, воляю лёсу, узначальваў ВБГ чатыры разы й пры тым пры розных уладах, каторыя почасту прытрымліваліся дыямэтральна супрацьлеглых палітычных арыентацыяў, — у найбольш вірлівы й цяжкі пэрыяд існаваньня гімназіі. Нягледзячы на ўсе цяжкасьці пераходнага й ваеннага ліхалецьця, яму ўдавалася заўсёды ўтрымліваць стырно кіраўніцтва гімназіяй у рэчышчы захаваньня традыцыяў, закладзеных ейным заснавальнікам І. Луцкевічам, узгадоўваць у душах вучняў пачуцьцё нацыянальнай годнасьці.

**Алег Анцукевіч**

*Сябры рэдакцыі «Руні», Таварыства беларускай культуры ў Літве, беларусы Віленшчыны віншуюць Генэральнага сакратара Беларускага Аб'яднаньня Аўстраліі **Алеся Алехніка з 70-годзьдзем** з дня нараджэньня! Неўзабаве споўніцца 50 гадоў, як Алесь Алехнік, пражываючы ў далёкай Аўстраліі, аддае ўсе свае сілы на карысьць беларускае справы, працуе дзеля таго, каб Беларусь сталася сапраўды незалежнай, дэмакратычнай, эўрапэйскай краінай.*

*Зычым сп. Алесю Алехніку доўгіх гадоў жыцьця й спадзяемся разам зь ім дачакацца зьдзяйсьненьня ягоных мараў!*

*Жыве Беларусь!*

## Зьмест газэты «Рунь»

вельмі цікавы. Асабліва мне спадабаўся цыкл артыкулаў «Беларусь напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў» і артыкул «Нататкі беларуса», бо думкі, выказаныя там, супадаюць з маімі думкамі. Аднак я не згаджаюся з поглядамі сп. С. Вітушкі на вайну ў Югаславіі, краіне, у якой палітычны парадак быў падобны да парадку ў СССР. У Харвацыі, Славеніі, Босьніі-Герцагавіне й Касавары прыблізна 10% сэрбаў кіравалі гэтымі краінамі, гэтаксама як цяпер кіруюць расеяне ў Беларусі. Але гэтыя народы не здалі свае незалежнасьці, як тое зрабілі рахманыя беларусы, дабраахвотна пайшоўшы ў рабства, а, наадварот, ваявалі й далей ваююць за свае нацыянальныя правы, за сваю мову. Без свае мовы, без сваіх школаў і нацыянальных кіраўнікоў нацыя ня можа йснаваць, ейная этнічная тэрыторыя робіцца правінцыяй, якой кіруюць чужынцы. Калісьці так было ў Вялікай Брытаніі. Аднак часы зьмяніліся. Шкоты й Валійцы атрымалі цяпер сваю аўтаномію й маюць свае парляманты. У Валіі йснуюць валійскія школы, дзе дзеці ангельчанаў змушаныя вучыцца валійскай мовы, якая ёсьць зусім адметнай ад ангельскай. А ў Беларусі ўсё наадварот. Незалежнасьць і поўная свабода — гэта гарантыя будучага дабрабыту краіны й ейных жыхароў. У Англіі ў турме людзей добра кормяць, камэры цёплыя й добра абсталяваныя, аднак людзі туды дабраахвотна ня йдуць.

**Міхась Баяроўскі**
***Англія***

## У N 23 «Руні»

прачытаў я артыкул сп. Сымона Шаўцова «Swagman». Вельмі паважаны Сымон Шаўцоў добра растлумачыў значэньне слова swagman, але ў далейшым не зусім дасканала апісаў становішча беспрацоўных у Аўстраліі.

Ужо каля двух гадоў я выконваю абавязкі Сакратара Беларускага Аб'еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі. Праз мае рукі праходзіць многа лістоў як ад мясцовых грамадзкіх арганізацыяў, так і ад улады. Становішча на рабочым фронце інакшае, чым апісаў паважаны сп. Сымон. Я прыехаў у Аўстралію больш за 7 гадоў таму назад і, правучыўшы год ангельскую мову, яшчэ больш чым паўгоду шукаў працу ў галіне электронікі, але так і не знайшоў, бо фабрыкаў мала й большасьць працуюць ад ўсё ў Аўстралію з Тайваня, Малайзіі, Інданэзіі ды іншых краінаў зь дзешавейшымі рабочымі рукамі. Але ўладкаваўся рабочым у Prospect Council (Савет раёну Надзея — адзін з многіх раёнаў у Адэлайдзе). Працаваў паўгода за грошы дапамогі па беспрацоўю. Праз паўгады далі мне статус часовага работніка. І толькі яшчэ праз тры гады прынялі на пастаянную працу. Вось як тут «лёгка» здабыць працу.

Аднак нехта скажа: можа, гэта адзін Віктар такі няўдалы ды нязграбны, што ня хоча сядзець дома ды атрымліваць добрую дапамогу па беспрацоўю? Чаму, запытаецеся вы, я хаджу на працу, якая ня выгадная мне й не адпавядае майму густу? А ці спрабавалі вы, людзі добрыя, пераехаць, напрыклад, з Краснаярску на жыцьцё ў Менск? А ўся вашая радня й знаёмыя засталіся ў Краснаярскім краю, а ў Менску нікога блізкага няма. І ня тое, што няма ніводнага знаёмага, а й з грашыма ня густа, і з пошукамі працы ня сьвеціць. А цяпер дадайце сабе, што вы праз няведаньне ангельскай мовы сталіся глухімі й сьляпымі. Вось гэта й будзе тое становішча, у якім я апынуўся ў першыя гады ў Аўстраліі: глухі, сьляпы й без грошай, бо грошай па беспрацоўю хапае толькі на ежу ды за хату арэнду заплаціць. А радня на Беларусі думае, што табе ўжо пашанцавала найбольш, чым каму, што ты тут як сыр у масьле круцісься.

Цяпер становішча новых эмігрантаў у Аўстралію яшчэ пагоршылася. З сакавіка 1997 г. эмігранты павінныя жыць два гады ці за свае грошы, ці за грошы спонсара. Аўстралійская ўлада вырашыла, што большасьць эмігрантаў ёсьць людзі адукаваныя й ім не патрэбныя эміграцкія хастэлі. Дабаўлю, што вялікую падтрымку ідэі двух гадоў чаканьня дапамогі па беспрацоўю аказала старая эміграцыя зь іхняй філязофіяй: нам ніхто не памагаў і мы не памерлі... Але справа ў тым, што сьвет зьмяніўся, а старая эміграцыя гэтага ня хоча заўважаць.

Аднак усё гэта не азначае, што эмігранты бясконца бадзяюцца па вуліцах у пошуках працы. Усе пацяху ўладкоўваюцца, працуюць і нейк абжываюцца. Але ўсё гэта прыходзіць толькі тады, калі пачынаеш гаварыць па-ангельску. Бяз мовы няма працы.

Хачу дабавіць, што за гэтыя некалькі гадоў да нас у Беларускае Аб'еднаньне у Паўдзённай Аўстраліі ніхто ні разу не зьвярнуўся з просьбай даць якуюсь інфармацыю ці нешта параіць, падказаць. Таму са старонак «Руні» хацелася б паведаміць, што ў Паўдзённай Аўстраліі йснуе ўжо некалькі дзесяцігодзьдзяў нашае Аб'еднаньне, а ўсіх, хто валодае ангельскай мовай, запрашаю на маю інтэрнэт-старонку «Беларусы й Час»:

Belarusians and Time -
www.picknowl.com.au/homepages/viktor/default.htm

**Віктар Кавалеўскі**
***Аўстралія***

## У выдавецтве «Рунь»

завяршаецца праца над падрыхтоўкаю да друку кнігі **«Віленская Беларуская Гімназія. Том першы. Успаміны»**. У кнігу намі адабраныя ўспаміны гэткіх асобаў: Кастусь Акула, Алег Анцукевіч, Алег Багдановіч, Янка Багдановіч, Анатоль Бразоўскі, Юліяна Вітан-Дубейкаўская, Галіна Войцік, Раіса Галяк, Францішак Грышкевіч, Аляксандар Драфейчук, Кастусь Езавітаў, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Мацей Канапацкі, Анэля Катковіч, Зоя Каўшанка, Барыс Кіт, Адольф Клімовіч, Сьвятаслаў Коўш, Пётра Лаўрычонак, Марыян Пецюкевіч, Мікола Рулінскі, Адам Станкевіч, Альбін Стэповіч, Надзея Шнаркевіч, Вера Шостак, Марыя Шутовіч, Янка Шутовіч, Вітаўт Тумаш, Віктар Ярмаловіч. Шаноўныя чытачы! Яшчэ ня позна даслаць нам у выдавецтва вашыя ўспаміны, фатаздымкі, матар'ялы, датычныя гісторыі славутай ВБГ! Выказваем таксама падзяку ўсім, хто ўжо адгукнуўся на нашую просьбу, у іх ліку: **Р. Жук-Грышкевіч і Ю. Найдзюк.**

**А. М.**

## У N 24 «Руні»

надрукаваны артыкул Міхася Белямука «Дзейнасьць Мітрапаліта...». Вельмі прыкра, на маю думку, штосьці падобнае чытаць. Кожны сьведамы патрыётбеларус хіба добра ведае, што Руская Праваслаўная Царква гэта ня толькі рэлігійная ўстанова, гэта й палітычная арганізацыя, якая ад даўніх вякоў працавала й сёньня працуе на карысьць маскоўскага імпэрыялізму. Сёньня Мітрапаліт Філарэт, дарэчы, раней адзін з самых давераных духаўнікоў маскоўскай Патрыярхіі, шчыльна супрацоўнічае з ворганамі магутнага КДБ. Сёньня ён у вялікай прыязьні з праваслаўным атэістам-рэнэгатам Лукашэнкам. Абодва гэтыя прыяцелі працуюць згодна ў ліквідацыі самой Беларусі, у тварэньні зь яе «Северо-Западного Края».

**Віталь Кажан**
***Амэрыка***

## Беларуская рэспубліканская партыя

пастанавіла ня ўдзельнічаць у незаконнай рэгістрацыі грамадзкіх арганізацыяў, каторая на працягу гэтага году вядзецца лукашэнкаўскімі ўладамі. Яна пакідае за сабой права аднавіць сваю палітычную дзейнасьць пасьля адмены драконаўскага дэкрэту N 2 Прэзыдэнта РБ ад 26 студзеня 1999 г. Пра гэтае прасіў паведаміць сустаршыня БРП **Валеры Арціпэўскі**. Разам з Выпіскай паседжаньня палітрады БПР сп. В. Арціпэўскі даслаў зьместоўны артыкул «Дэмакратыя — беларускі варыянт», каторы мы будзем друкаваць у наступным нумары «Руні».

**А. М.**

## Цікавы артыкул

пра У. Уласава ў N 24 «Руні». Гады таму назад даводзілася гутарыць з чалавекам, які добра знаў Уласава. Ён распавядаў, што ў 1920 г. бальшавікі арыштавалі Ўласава як памешчыка-«буржуя». На гэта Ўласаў ім сказаў: «Усё сваё жыцьцё я імкнуўся быць буржуем, але ніяк ня змог ім стаць». Таксама чытаў недзе, што як пастанаўлена было выдаваць «Нашу Ніву», дык некаторыя заснавальнікі газэты ня былі пэўныя, ці прыйме новую газэту беларуская грамадзкасьць і ці выканае яна сваё заданьне. На што Ўласаў сказаў: «Калі нашыя хлопцы пачнуць пісаць пісьмы да дзевак па-беларуску, значыць, газэта сваё заданьне выканала!» Як бач, Уласаў любіў жартаваць і з такім чалавекам добра было працаваць.

**Юры Весялкоўскі**
***Англія***



## МОЙ ПОГЛЯД НА
# ПАЗЬНЯКА

Напрыканцы ліпеня ў Менску прайшоў чарговы зьезд БНФ, першай і найбуйнейшай палітычнай партыі Беларусі. За 11 гадоў сваёй гісторыі Фронт зазнаў нямала бліскучых перамогаў і прыкрых паразаў. Апошнім часам – больш паразаў, чым перамогаў. Гэта адчулі ня толькі аналітыкі-палітолягі – гэта стала бачна кожнаму. 6-га зьезду БНФ чакалі ўсе ды зьвязвалі зь ім спадзяваньне на перамены. Чаканьні спраўдзіліся. Зянон Пазьняк – той самы Зянон Пазьняк, які 11 гадоў узначальваў Фронт, стаўся ейным сымбалем – ня быў абраны зь першага разу на пасаду старшыні. Гэты факт, на маю думку, пачаў адлік новага этапу ў гісторыі БНФ (а, можа, і Беларусі).

Тое, што ня ўсё добра ў Фроньце, было ясна даўно. Але раней усе спробы рэфармаваць Фронт упіраліся на зацяты супраціў ягонага Старшыні. Незадаволеныя па чарзе сыходзілі з Фронту, спрабавалі стварыць свае ўласныя палітычныя партыі. Ды вось, нарэшце, да фронтаўцаў дайшло, што іхная арганізацыя ня ёсьць прыватная ўласнасьць аднэй асобы, і замест таго, каб сыходзіць з Фронту, 7 чалавек прапанавалі сябе на пасаду ягонага старшыні. (Потым, праўда, усе адмовіліся на карысьць аднаго – Вінцука Вячоркі). Штопраўды, і Вінцук Вячорка на галасаваньні не дабраў належнай колькасьці галасоў... Зьезд і чарговыя выбары перанесеныя на верасень.

Аднак галоўны вынік мы ўжо маем: Фронт прагаласаваў за перамены. Пазьняк пацярпеў чарговую паразу (прыгадаем паразы на першых прэзыдэнцкіх выбарах, на выбарах у ВС 13-га скліканьня, а таксама на нядаўні «сыход з дыстанцыі» на другіх прэзыдэнцкіх выбарах).

* * *

Няма для бацькі радасьці, як гадаваць сваё дзіця, вучыць яго, выхоўваць. Бачыць, як яно становіцца на ногі, убіраецца ў сілу, пераймае ягоную справу. Але ня кожнаму выпадае шчасьце быць бацькам. (Праўда, бываюць і крыўдныя выпадкі, калі няўдзячныя нашчадкі марнуюць бацькаву спадчыну. Тым больш добры бацька паруп іцца своечасова перадаць справу сыну, каб паправіць памылкі, пакуль сам яшчэ нейк маецца).

На месцы Пазьняка я б цешыўся, што ўзрасло чарговае пакаленьне, адукаванае і энэргічнае, якому ня сорамна даручыць спадчыну. На месцы Пазьняка я па-бацькоўску благаславіў бы сваіх дзяцей. Але Пазьняк на зьезьдзе сказаў на ўласьцівы яму капыл: «Усё вырашана. Хто ня згодны, можа сыходзіць...»

Што ж ты зробіш: ня кожнаму даецца быць бацькам.

**Сяржук Вітушка**

# СЛАВЯНСКІ АНТЫСЛАВЯНІЗМ

*Заканчэньне. Пачатак у NN 23,24*

Кожны славянін павінен, нарэшце, інстынктыўна ўсьвядоміць небясьпеку для сябе, для сваіх дзяцей, для сваёй зямлі. Кожны нацыянальна сьвядомы чалавек, беларус, рускі, паляк, сэрб, украінец, павінен разумець, што сытуацыю на Беларусі ў лепшы бок можа зьмяніць толькі прыход да ўлады карэннай нацыі. Толькі саюз нацыяналістаў-славянаў, которыя падтрымліваюць беларускую нацыю ў Беларусі, рускую ў Расеі й г. д., — можа стварыць умовы росквіту славянскай папуляцыі. Менавіта саюз нацыяналістаў зьяўляецца адзінай сілай, якая можа спыніць дзеяньні рускамоўнага шавінізму, ягоную дэградуючую для чалавечай цывілізацыі сілу.

А пакуль на прасторах Беларусі гучаць магутныя рускія мацюкі, Курэньне, п'янства, наркаманія, СНІД сярод моладзі распаўсюджваюцца з хуткасьцю эпідэміі. Вялікі духоўны патэнцыял беларускай нацыі ігнаруецца палітычнай элітай Беларусі ці то з прычыны ейнай некампэтэнтнасьці, ці зламысна. Але ў тым і другім выпадку беларускаму народу не лягчэй.

Сёньняшняя Расея зь ейнай рускамоўнай шавіністычнай элітай нічога ня можа прапанаваць народам краіны акрамя вялікадзяржаўнага патрыятызму, г. зн. рускамоўнага шавінізму, і развальваецца на вачох. Раўнапраўны саюз народаў для яе недапушчальны й страшны. Выказваньні краснадарскага губэрнатара аб правах рускай нацыі на ейнай этнічнай тэрыторыі, аб ейных нацыянальных інтарэсах, аб неабходнасьці быць гаспадыняй на сваёй зямлі, — зьяўляюцца абсалютна справядлівымі. І лягічнымі зьяўляюцца нападкі на яго прэсы й тэлебачаньня. Рускамоўны шавінізм не даруе абарону рускай нацыі. Як гэта рускі купіць краму, адкрые сваю справу, а яму яшчэ й губэрнатар дапаможа! Да паўзногця яго! Але вось, пры сустрэчы зь беларускім кіраўніцтвам, штосьці не было чуваць, што губэрнатар асуджае антыбеларускую пазыцыю, палітыку рускамоўнага шавінізму на беларускай зямлі... І ў гэтым трагізм рускай нацыі. Пакуль рускі нацыяналізм не парве з рускім і рускамоўным шавінізмам, пакуль рускія нацыяналісты адкрыта не абвесьцяць аб злачыннасьці любых славянскіх саюзаў пад эгідаю рускай нацыі, — зьнішчэньне славянскай папуляцыі рукамі саміх славянаў будзе йсьці нарастаючымі тэмпамі. Адказнасьць за гэта ляжыць перадусім на рускай нацыі. Сёньняшняя Расея без ваганьняў падтрымлівае любыя дзеяньні беларускага кіраўніцтва не таму, што Беларусь не падтрымлівае НАТА (Расея сама фактычна ймкнецца ўсімі сіламі туды, іншага шляху ў яе няма — у яе на плечах Кітай), не таму, што Беларусь зьяўляецца «калідорам Расеі на Захад» (у Расеі іх маецца дастаткова), а таму, што рускамоўны шавінізм у Беларусі займае мацнейшыя пазыцыі, чым нават у самой Расеі. Беларусь — надзея рускамоўнай эліты Расеі й Беларусі на ўратаваньне іхняй імпэрыі. Беларусь служыць пастаянна дзеючым агітпунктам Расеі, каторы дэманструе ўсім расейскім народам эфэктоўнасьць рускамоўнага шавінізму й непатрэбнасьць нацыянальнага адраджэньня. Глядзіце, маўляў, усе: нават Беларусь зь ейнымі фантастычнымі магчымасьцямі працьвітаньня дабраахвотна хоча адмовіцца ад сваёй свабоды, толькі б стаць губэрняй Расеі. Вось як добра жывецца ў Расеі!

Мілыя бабулі й дзядулі, мілыя матулі й татулі! Калі вы бачыце на вуліцах чараду дзяўчынак-падлеткаў з цыгарэтамі ў руках і ад іхняй кампаніі даносяцца сочныя рускія мацюкі (я ўжо нават не кажу пра хлапчукоў), калі на лекцыі выкладчык краем вуха ловіць тое самае ад сваіх студэнтаў, можаце толькі радавацца: мы дасягнулі таго, чаго хацелі, да чаго імкнуліся. Успомніце, як мы выбіралі прэзыдэнта, Вярхоўны Савет, зь якім імпэтам беглі на рэфэрэндум, каб адмовіцца ад Канстытуцыі, ад роднай мовы, сымболікі, нацыянальнай годнасьці... Калі душа пакідае цела, яно пачынае сьмярдзець. Калі чалавек губляе сваё карані — ён робіцца разбуральнікам.

Спадары славянаборцы, адкажыце пераканаўча, навошта амэрыканцам учыняць агрэсію дзеля зьнішчэньня славянаў? Вось дадзеныя: паводле прагнозаў, да 1985 году рускіх павінна было быць ня менш 260 млн. А згодна перапісу 1979 года іх усяго 137 млн. За тры гады (1985-87) колькасьць рускіх скарацілася на 6 млн. («Наш современник», 3/1999). Ну навошта амэрыканцам яшчэ выдаткі на агрэсію? Мы самі сябе зьнішчаем. А цяпер вось паказальна зьнішчаем беларускую нацыю. Дапусьцім, у амэрыканцаў сьвярбяць рукі паскорыць гэты працэс. Але й тады гэта можна зрабіць больш ашчадна й проста. Дастаткова, каб кангрэс ЗША прыняў пастанову вылучаць штогод для падтрымкі цяперашняга ўраду Беларусі каля 300 млн. дал. з прамым пералікам іх Расеі за бесперабойнае забясьпячэньне Беларусі энэргарэсурсамі (гэта ўмацуе пануючы ў РБ рэжым) ды яшчэ 20 млн. на палітыку яднаньня славянаў. Акрамя таго няхай ЗША штогод дае Расеі беспрацэнтны заём гэтак млрд. на 10, каб на гэтыя грошы Расея рэалізавала сваю ваенную дактрыну змаганьня з сэпаратызмам, а бравыя рускія хлопцы (дзеяздольная рэштка рускай нацыі) насілася па пэрымэтры сучаснай Рас. Фэдэрацыі, уціхамірваючы непаслухмяныя народы ды паміраючы на Каўказе, Далёкім Усходзе, у Сыбіры, Паволжы... На гэта рускай нацыі хопіць сілы гадоў на дзесяцьдваццаць. Славянаборцы, калі яны будуць мець дастаткова матар'яльных сродкаў, узмоцняць зь Менску работу аб'яднаньня славянаў і праз адно, максымум два пакаленьні праблемаў са славянамі ад Буга да Курылаў ня будзе. Яе без удзелу амэрыканцаў вырашаць рускамоўныя шавіністы.

Але, мабыць, амэрыканцаў, як і ўвесь цывілізаваны сьвет, турбуе пытаньне, якое не цікавіць славянаборцаў: «А што ж будзе потым? Што выйграе з гэтага чалавечая цывілізацыя й кожны асобны чалавек?» Адказ тут адназначны: прайграюць усе, уключаючы й славянаборцаў.

Антыбеларусізм у Беларусі становіцца стандартам джяржаўнай палітыкі. Нават у часе гітлераўскай акупацыі адкрываліся, а не закрываліся беларускія школы, друкаваліся беларускія газэты. Пастанова Бюро Прэзідыюма АН Беларусі аб адмене заліку зь беларускай мовы для аспірантаў — гэта дакумант велізарнай выкрываўчай сілы, каторы паказвае ўзровень генацыду палітычнай «элітай» дзяржавы адной са старэйшых славянскіх нацыяў на ейнай этнічнай тэрыторыі напрыканцы XX ст.

У Беларусі няма антысэмітызму, як і няма антырусізму, антыбеларусізму, антыўкраінізму, — у Беларусі манапольна пануе ідэалёгія рускамоўнага шавінізму, для якога непрымальныя ўсе нацыі: жыдоўская, беларуская, асабліва руская, —славянская папуляцыя ў цэлым. Але там, дзе карэнная нацыя адхіленая ад кіраваньня на сваёй тэрыторыі, ніводны прадстаўнік іншай нацыі ня можа сябе адчуваць абароненым. Камфортна адчуваюць сябе інтэрнацыяналісты, і як вынік (ПМГ < 1) грамадзтва дэградуе.

Пакуль карэнная нацыя ня возьме ўладу ў свае рукі й ня выкарыстае свой шматвяковы досьвед пражываньня на этнічнай тэрыторыі, свой духоўны патэнцыял на дабрабыт усіх жыхароў Беларусі, датуль падзеньне Беларусі ў бездань ня спыніцца.

**Валеры Арцішэўскі**

# Хлеб пад абцасам

Мае сябры зь Беларусі маюць добрых знаёмых у Нямеччыне. Аднаго разу, падчас наведаньня сваіх бацькоў у вёсцы, яны ўявілі сабе, што тыя нямецкія сябры шпацыруюць разам зь імі, любуючыся беларускімі краявідамі, – ды паспрабавалі глянуць на наваколье нямецкімі вачыма. І маіх сяброў агаломшыла думка, што большасьць праяваў беларускага жыцьця вельмі цяжка, а практычна немагчыма, растлумачыць эўрапэйскаму (чытай –нармальнаму) чалавеку. Як, напрыклад, растлумачыць, чаму калгасны сьвіран мае вокны з магутнымі кратамі й ня мае... дзьвярэй? Тым, што злодзей прывык лазіць праз вокны?

Прыкладаў было б шмат, але я хачу правесьці свой, з уласнага досьведу. Я ўявіў сабе якогась немца ці швэда, каторы перасякае беларуска-літоўскую мяжу. І вось ён становіцца сьведкам такой сцэны: людзей, што едуць зь Беларусі ў Літву, літоўскія мытнікі выводзяць з аўтобусаў, прымушаюць раскрываць торбы ды нават дамскія рыдыкюлі... «Наркотыкі, мабыць, шукаюць, ці зброю – малайцы нашыя літоўскія сябры!» –падумае немец ці швэд. Уяўляю, як ён будзе зьдзіўлены, калі зразумее, што шукаюць зусім не гераін і не дынаміт: з дарожных торбаў выцягваюцца ды кідаюцца ў сьметнік хлеб, хатнія кілбасы, шматы сала... А былі выпадкі, калі нават, распрануўшы пасажыраў, знаходзілі дзе-небудзь у рукаве ці ў калашыне паляндвіцу або вараны язык!

«Вас іст дас?!» (Што гэта такое!?) І як тут растлумачыць, што гэтак незалежная літоўская дзяржава ахоўвае свой рынак? І як давесьці дый самому ўцяміць, што гэта за дзяржава такая, эканоміку каторай здольны падарваць бохан хлеба ды кавалак сала з суседняй дзяржавы?

Тлумачыцца ўсё проста: для нас (не для немцаў, зразумела) не было, бадай што, за ўсю гісторыю Літоўскай Рэспублікі – дый Літоўскай ССР – больш антынароднай улады, чым улада «партыі кансэрватараў», якая пануе цяпер. Прэм'ер «з чалавечым тварам» і, як здаецца, сапраўды сумленны чалавек Раландас Паксас проста фізычна ня ў стане паправіць тое, што натварылі ягоныя «партайгэноссэ»: гіганцкі дзяржаўны доўг, распрададзеныя за бясцэнак стратэгічныя аб'екты, карупцыя, усеагульная дэпрэсія.

Усе гэтыя драконаўскія штучкі з канфіскацыяй бохана хлеба на мяжы й з агромністымі штрафамі за выяўленую лішнюю бутэльку віна – гэта ўсяго толькі спроба, фігавы лісток, якім спрабуюць прыкрыць бяздарную, рабаўніцкую эканамічную палітыку кіруючыя колы нашай краіны. Тыя, хто скраў або прынёс стратаў на дзясяткі й сотні мільёнаў, застаюцца беспакаранымі, а «казламі адпушчэньня» становяцца тыя, хто ад бацькоў ці дзядоў спрабуе правезьці «кантрабандны» кавалачак кумпяка ці бохан хлеба. І ўсім вядома, што ў кожны момант, у кожны час, на кожным віленскім кірмашы можна набыць пляшку беларускай гарэлкі – значыць, можна, нягледзячы на ўсе забароны, правезьці тую гарэлку, трэба толькі ведаць, каму й колькі «даць у лапу»?

Абедзьве нашыя краіны ёсьць спрадвечна сялянскія. Мабыць, таму ў абодвух нашых народаў хлеб – рэч сьвятая. І, мабыць, таму ў мяне ўзьнікла такая асацыяцыя: з такой злосьцю й пагардай, зь якой літоўскія мытнікі выцягваюць і шпурляюць у сьметнік беларускі хлеб, савецкія мытнікі вышуквалі й зьнішчалі Біблію ды малітоўнікі... А калі параўнаць мінулае ды цяперашняе – у студзені 91-га мы, галодныя й халодныя, але з гатоўнасьцю йсьці на сьмерць, стаялі ля будынку Вярхоўнага Савету, у якім сядзелі ва ўтульных крэслах тыя, хто тады кіраваў краінай. І так яно засталося дагэтуль: мы – на вуліцы, галодныя й халодныя, а яны – тыя самыя – тлусьцеюць нашым коштам у тых самых крэслах...

**Алег Аблажэй**

**Шаноўныя чытачы!**

Пасьля выхаду гэтага нумару «Руні» ў касе рэдакцыі застанецца сума, каторай ужо недастаткова для выданьня нумару наступнага. Галоўнай жа крыніцай нашага йснаваньня па-ранейшаму застаюцца вашыя падпісныя грошы й ахвяраваньні.

Увогуле, сёньня выданьне накладу аднаго нумару газэты (разам зь перасылкай) абыходзіцца нам у $ 300. І гэта пры тым, што сябры рэдакцыі, разумеючы важнасьць для беларусаў усяго сьвету адраджэньня й захаваньня беларускасьці ў нашай старажытнай сталіцы Вільні, працуюць без заробкаў.

Мы зробім усё каб «Рунь» выходзіла й надалей, аднак просім прабачэньня за магчымую нерэгулярнасьць ейнага зьяўленьня ў сьвет. Спадзяемся гэтаксама й на вашую матар'яльную падтрымку.

Умовы падпіскі ранейшыя. Чытачы далёкага замежжа могуць падпісацца даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку **(Pavel Savcenko)**. Кошт падпіскі на год – **$20.**

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў сакратара Паўла Саўчанкі. Тэлефон: **61 62 24.** Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

Падпішчыкам у Беларусі паведамляем адрас у Гродна: *230023 Гродна-23, п/с 194, Дануце Бічэль-Загнетавай.* Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$3** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Расеі паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$5**.

Падпішчыкам у Польшчы паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021***
***Lithuania***

Ахвяраваньні на газэту:

***М. Прускі*** *з Амэрыкі $ 25*

***Ю. Васілеўскі*** *з Амэрыкі $ 50*

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
Таварыства беларускай культуры ў Літве
выдаўцы
Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»
Таварыства беларускай культуры ў Літве
адрас рэдакцыі
*Zygimantų 12-3, 2001 Vilnius, Lithuania*
тэлефоны
*(+ 10 370 2) 42 38 02; 61 62 24*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Андрэй Цярэньцеў** — аддзел рэклямы
друк AB «Spauda»
наклад 1000
*ISNN* **1392-7671**